—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
3
СТУДЗЕНЯ
1992 г.
№ 1 (3619)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ! ШЧАСЛІВАГА НОВАГА ГОДА!

# Кола Дзён-91

Першы нумар «ЛіМа» за 1992 год чытачы атрымаюць, хутчэй за ўсё, яшчэ да Новага года. І ў гэтым бачыцца яшчэ адна падстава кінуць позірк у год мінулы — 1991. Гэта быў год, поўны драматычных і нават трагічных падзей. Разам з ім адышла ў гісторыю цэлая эпоха. Што прынясе людзям і народам новы час? Чалавек жыве надзеяй...

А ўспомніць падзеі мінулага года дапаможа рубрыка «Кола Дзён».

**17 СТУДЗЕНЯ**

на сесіі Вярхоўнага Савета БССР прынята Заява аб падзеях у Летуве. У Заяве, у прыватнасці, патрабуецца ад Прэзідэнта СССР «неадкладна спыніць удзел Узброеных Сіл у вырашэнні палітычных праблем Летувы, правесці расследаванне дзейнасці так званага камітэта нацыянальнага выратавання...»

**9 ЛЮТАГА**

ў доме адпачынку «Марозаўка» пад Масквой сабраліся прадстаўнікі саюзных і аўтаномных рэспублік, каб дапрацаваць праект Саюзнага дагавора. Дэлегацыю Беларускай ССР узначальваў намеснік Старшыні ВС рэспублікі В. Шаладонаў.

**2 САКАВІКА**

ў Мінску прайшоў устаноўчы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады.

**14 САКАВІКА**

публікацыя звароту «Да народа Беларусі» Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі, ЦК КПБ і Саўміна БССР, аўтары якога заклікалі галасаваць на «ўсенародным рэферэндуме» за «абноўлены Саюз ССР», выклікала розную рэакцыю ў дэпутатаў розных фракцый. Многія выказвалі неўразуменне...

**3 КРАСАВІКА**

рабочыя Мінскага электрамеханічнага завода, завода аўтаматычных ліній, маторнага і некаторых іншых прадпрыемстваў заблакіравалі трамвайны рух у знак пратэсту супраць «паўлаўскага» павышэння цэн. Пачалася забастоўка. Быў створаны сумесны стачком некалькіх заводаў, які разам з гарадскім стачкомам вылучыў эканамічныя і палітычныя патрабаванні.

**24 МАЯ**

ў Нова-Агарове пад Масквой прайшло пасяджэнне Падрыхтоўчага камітэта, які працуе над праектам новага Саюзнага дагавора. У пасяджэнні (яго вёў Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў) прынялі ўдзел Старшыня Вярхоўнага Савета СССР А. Лук'янаў, кіраўнікі большасці саюзных і аўтаномных рэспублік. Прапанаваны варыянт назвы — Саюз Савецкіх Суверэнных Рэспублік.

**12 ЧЭРВЕНЯ**

на выбарах першага Прэзідэнта РСФСР большасць галасоў набраў Б. Ельцын — 57,3 працэнта (усяго галасавала 75 працэнтаў выбаршчыкаў).

**18 ЛІПЕНЯ**

ў Мінску прайшла сустрэча прадстаўнікоў кампартый Беларусі, Летувы, Латвіі і Эстоніі, на якой быў узгоднены «план сумесных дзеянняў па захаванні і абнаўленні Саюза ССР».

**19 ЖНІЎНЯ**

па радыё і тэлебачанні перададзены ўказ віцэ-прэзідэнта СССР Г. Янаева: у сувязі з немагчымасцю па стане здароўя выканання Гарбачовым Міхаілам Сяргеевічам сваіх абавязкаў Прэзідэнта СССР на аснове артыкула 127 (7) Канстытуцыі СССР віцэ-прэзідэнт уступіў у выкананне абавязкаў Прэзідэнта Савецкага Саюза. Уся ўлада ў краіне з 4 гадзін па маскоўскім часе перайшла да Дзяржаўнага камітэта па надзвычайным становішчы...

**21 ЖНІЎНЯ**

члены ГКЧП узяты пад варту загадам кіраўніцтва Расіі. Над Белым домам і Крамлём узняты нацыянальны расійскі сцяг.

**25 ЖНІЎНЯ**

Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пакет рашэнняў аб незалежнасці, палітычнай і эканамічнай самастойнасці рэспублікі, дэпартызацыі і прыпыненні дзейнасці КПБ-КПСС (у сувязі з фактычным роспускам Кампартыі Савецкага Саюза). Старшыня Вярхоўнага Савета М. Дземянцей падаў у адстаўку.

**19 ВЕРАСНЯ**

беларускі парламент на сваёй нечарговай сесіі прыняў гістарычныя рашэнні аб назве, сцягу і гербе Рэспублікі Беларусь.

Напярэдадні Старшынёй Вярхоўнага Савета быў выбраны Станіслаў Шушкевіч.

**12 КАСТРЫЧНІКА**

пачаўся першы (устаноўчы) з'езд Згуртавання беларускіх вайскоўцаў.

**14 ЛІСТАПАДА**

на пасяджэнні Дзяржаўнага савета ў Нова-Агарове, які разглядаў новы тэкст новага Саюзнага дагавора, абмяркоўваўся лёс саюзных структур. Вырашана захаваць пост Прэзідэнта СССР, адрадзіць пасаду віцэ-прэзідэнта, а таксама кабінет міністраў.

**8 СНЕЖНЯ**

кіраўнікі Беларусі, Расіі і Украіны падпісалі ў Белавежскай пушчы (рэзідэнцыя Віскулі) пагадненне аб Садружнасці Незалежных Дзяржаў і дэнансавалі Саюзны дагавор ад 1922 года.

**25 СНЕЖНЯ**

Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў заявіў, што пакідае пост Прэзідэнта СССР. Савецкі сцяг над Крамлём быў спушчаны.

Рабочы кабінет Гарбачова і кантроль за «ядзернай кнопкай» перайшлі да Прэзідэнта Расіі Ельцына.

**30 СНЕЖНЯ**

ў дзень утварэння колішняга Савецкага Саюза кіраўнікі Незалежных Дзяржаў, якія падпісалі ў Алма-Аце Дэкларацыю аб Садружнасці, сустрэліся ў Мінску, каб абмеркаваць галоўныя фінансава-эканамічныя і ваенна-стратэгічныя пытанні.

# АДКРЫЕМ КУЛЬТУРЫ ГРАНІЦЫ

**Для вельмі ўдзячнай справы аб'ядналі свае намаганні міністэрствы культуры дзвюх суседніх дзяржаў — Польшчы і Беларусі. Створана сумеснае прадпрыемства па рэстаўрацыі, турызме і гандлю «Рэнаватум», што азначае — адраджэнне. Няўжо на месцы руін у вялікіх і малых гарадах і сёлах нашай рэспублікі зноў паўстануць зняважаныя некалі, як і сама гісторыя нацыі, храмы і палацы?**

**— Не адразу, вядома. Але наш асноўны партнёр — вядомая ў свеце польская фірма «Пеказет» (ПКЗ) — ужо больш як сорак гадоў вяртае былое хараство помнікам старадаўнасці ў 19 краінах, — гаворыць перший намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Гілеп. — У нашай краіне майстэрства польскіх рэстаўратараў ацанілі ў Маскве і Санкт-Пецярбурзе, Рызе і Таліне. Супрацоўніцтва з майстэрнямі фірмы выгадна яшчэ і таму, што яны валодаюць добрымі тэхналогіямі, маюць дакументацыю на помнікі, размешчаныя на тэрыторыі Беларусі, перадаюць нам спецыяльнае абсталяванне. Акрамя таго, працуючы побач з унікальнымі майстрамі, нашы рэстаўратары змогуць пераняць лепшы сусветны вопыт.**

**Але, як вядома, у нашай рэспубліцы ёсць Галоўнае ўпраўленне па рэстаўрацыі помнікаў культуры, якое атрымала статус самастойнай установы. Значыць, «Рэнаватум» становіцца фірмай-канкурэнтам. І, на маю думку, гэта добра. Толькі жывое спаборніцтва ва ўмовах рынку зрушыць з месца справу рэстаўрацыі ў Беларусі.**

**Набліжаецца двухсотгоддзе з дня нараджэння Адама Міцкевіча, таму першыя свае работы новае прадпрыемства пачне на помніках, звязаных з яго імем. Ужо рыхтуецца праект рэстаўрацыі дома Міцкевічаў у Завоссі Баранавіцкага раёна. Будуць аднаўляцца і іншыя маёнткі, звязаныя з імёнамі людзей, якія аднолькава належаць польскай і беларускай культурам.**

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, кар. БЕЛТА.**

# АБ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГВАРДЫІ

## Заява Сойма БНФ «Адраджэнне»

Бяздзейнасць, неініцыятыўнасць урада і Вярхоўнага Савета ў вайсковым пытанні вядзе да страты суверэнітэту Беларусі, да палітычнай і эканамічнай залежнасці ад іншых краін. На Беларусі засталося велізарнае войска, не падкантрольнае Рэспубліцы, стратэгічная і тактычная атамная зброя. Аднак, пачынаючы з 25 жніўня, Вярхоўны Савет практычна адмовіўся рэальна вырашаць вайсковае пытанне. Не створана беларускае войска, Рэспубліканская гвардыя, памежная варта. Гэта ў той час, калі ўтвараюць свае ўзброеныя сілы Расея, Украіна, балтыйскія краіны, іншыя былыя савецкія рэспублікі.

У выніку, пачынаючы з 1992 года, на тэрыторыі Беларусі акажацца шматлікая армія іншай дзяржавы — Расейскай Федэрацыі. Расея, авалодаўшы манаполіяй на эмісію рублёў, аб'явіла, што будзе плаціць заработную плату былому савецкаму войску, што знаходзіцца ў нашай дзяржаве. А гэта значыць, што «напаўняць» таварамі і прадуктамі аддрукаваныя ў Расеі пустыя рублі павінна беларускае насельніцтва. Так спраўджваецца ісціна — народ, які не хоча карміць сваё войска, будзе карміць чужое. Так можа адбыцца ціхая акупацыя Беларусі.

Яшчэ ў жніўні, адразу пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі, стыхійна пачала ствараццa Нацыянальная гвардыя, у якую толькі ў Менску запісалася каля трох тысяч чалавек. Аднак паколькі чакалася, што Вярхоўны Савет прыме пастанову аб Рэспубліканскай гвардыі Беларусі, фармаванне Нацыянальнае гвардыі было спынена па ініцыятыве Беларускага згуртавання вайскоўцаў і народных дэпутатаў ад БНФ.

Але дзяржава не можа быць безабароннай. У такіх варунках Беларускі Народны Фронт «Адраджэнне» не стане больш стрымліваць натуральную ініцыятыву людзей да самаабароны і самазахавання, выкліканую клопатам пра існаванне Рэспублікі Беларусь, клопатам пра ўласную будучыню, жыццё і дабрабыт. БНФ будзе спрыяць таму, каб Нацыянальная гвардыя ўтваралася законным шляхам. Людзі Беларусі знойдуць магчымасць пастаяць за сваю свабоду, незалежнасць і Бацькаўшчыну.

29 снежня 1991 г.
г. Менск.

# «Сусветная служба «Беларускай маладзёжнай»

**7 студзеня радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная» прэзентуе беларускаму слухачу сваю новую праграму «Сусветная служба «Беларускай маладзёжнай».**

Меркаванні беларусаў пра свет і ўяўленні ў свеце пра беларусаў — так кароценька можна вызначыць накіраванасць перадачы, якая пазнаёміць слухачоў з поглядамі беларусаў замежжа на культурныя, сацыяльныя ды палітычныя аспекты сучаснасці і гісторыі. Новая праграма дасць магчымасць бліжэй пазнаёміцца з побытам, духоўнымі арыенцірамі і грамадска-палітычнымі ўплывамі на свядомасць нашых суайчыннікаў. Апроч гэтага, «Сусветная служба «БМ» мае на мэце і знаёмства з тымі краінамі, дзе жывуць беларусы.

Новая праграма — гэта спроба духоўнага з'адзіночання і ўзаемапаразумення ўсіх тых, хто адчувае сябе беларусам. Спроба супольнага пошуку тых вартасцяў, якія яднаюць народ, нягледзячы на стракатасць меркаванняў і сцягоў, пад якімі ён жыве. Падобная спроба не мае аналагаў у сродках масавай інфармацыі, і тым прыемней вітаць згоду ў радыёжурналістаў іншых краін на супольную працу ў новай праграме. Ужо ў першым выпуску прымуць удзел беларускія журналісты радыёстанцый Польшчы, Літвы, Германіі, Эстоніі і Калінінграда. У наступных вы пазнаёміцеся з дзейнасцю прыватных беларускіх радыёстанцый Аўстраліі, пачуеце апошнія рэлігійныя навіны з Ватыкана і папоўніце свой досвед шэрагам іншых цікавостак.

Новая перадача будуецца згодна прынцыпу свабоднага абмену інфармацыяй на бесцэнзурнай аснове. Так што, успрымайце нашых суайчыннікаў такімі, якія яны ёсць і рабіце высновы самі.

Першы выпуск «Сусветнай службы «БМ» — 7 студзеня ў 19.00 па 1-й нацыянальнай праграме радыё Рэспублікі Беларусь. Складальнік і вядучы «Сусветнай службы «БМ» — журналіст Уладзімір Давыдоўскі.

Да сустрэчы на хвалях радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная»!

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ПОСТАЦІ ЛЕПШЫХ СЫНОЎ І ДАЧОК...

Шаноўныя спадары! Прачытаў у «ЛіМе» № 51 допіс паважанага спадара Я. Запрудніка «Ёсць такая постаць» і не ўтрымаўся, каб не выказаць глыбокую сардэчную ўдзячнасць яму і вам за такую светлую высакародную ідэю. Я ўпэўнены, што гэта ідэя захопіць усіх сумленных шчырых беларусаў і атрымае не толькі іх адабрэнне, але і жаданне прыняць непасрэдны ўдзел у практычным ажыццяўленні яе. Калі будзе заснаваны фонд «Ефрасіння Полацкая» (а ён абавязкова, трэба спадзявацца, будзе заснаваны), то рэдкі беларус не пажадае ахвяраваць пэўную колькасць грошай на гэтую святую справу і асабіста звярнуцца да Вярхоўнага Савета Рэспублікі з патрабаваннем дэмантаваць помнік Леніну на плошчы Незалежнасці ў Менску і ўсталяваць помнік Ефрасінні Полацкай. Такіх беларусаў, напэўна, ужо шмат, і я з задавальненнем гатовы да іх далучыцца.

На плошчах нашых беларускіх гарадоў павінны стаяць постаці лепшых дачок і сыноў Беларусі — яе слава і гонар у вяках і праз вякі!

**П. КАЖАР, пенсіянер.**

г. Орша.

**ЗАМЕСТ РЭПЛІКІ**

# НА ЧУЖЫМ НЯШЧАСЦІ ДЫ Ў РАЙ?

У «Народнай газеце» працуюць журналісты, якія ўжо зразумелі перавагі рынку. Прынамсі, яны перакананы, што выйграе той, хто пачынае першым. Яны тэрмінова выдалі брашуру «Жыць па купонах», якая маланкава хутка з'явілася ў кіёсках «Саюздруку».

Добра, канечне, што ўсе мы, патэнцыяльныя пакупнікі, можам атрымаць вычарпальную інфармацыю пра купоны, пра тое, як імі карыстацца. Але ж кошт гэтых некалькіх лісткоў паперы — ажно два рублі?! Праўда, у «Народнай газеце» мяркуюць, што — усяго два рублі, прытым без гэтых самых купонаў. Маўляў, рынак ёсць рынак..

Міжволі прыгадваецца старая добрая прымаўка: «На чужым няшчасці ў рай не заедзеш!» Няўжо і яна для «Народнай газеты» ўстарэла? Паўтараю, для «Народнай...»!

**ЛІМАВЕЦ.**

З пошты «ЛіМа»

# ЧАГО ЧАКАЦЬ НАМ АД КАСЦЁЛА?

Ішоў ці не трэці год перабудовы, калі нарэшце і ў сваёй местачковай аддаленасці пачулі мы першы павеў сапраўды новага, не звязанага з такімі звыклымі «выканаем» і «ператворым у жыццё». Гэтым новым стаў рух пастаўскіх католікаў за адкрыццё касцёла ў райцэнтры. Яго ў пасляваенны час напаткаў звычайны лёс. Што толькі ні размяшчалі ў зачыненым храме! Захоўвалі гарэлку і пустую тару, збожжа (уласнаручна падшыванцам выводзіў на яго чырвоных сценах крэйдай «боже, зерно храни»). Быў тут і цэх завода. І вось бабулі, дзяды, людзі маладзейшага веку як ускалыхнуліся па невядома чыім загадзе. Збіраліся натоўпы ля касцёла для «незаконных» маленняў, пасылаліся хадакі ў інстанцыі. Дарэчы, адпаведныя службоўцы спрабавалі высвятляць: ці быў які падбухторшчык? Дарэмна — проста час надышоў такі.

Помню адну дэлегацыю вернікаў. Гурт дзядзькоў завітаў у рэдакцыю раённай газеты. Мы ў той час «па прапанове» райкома партыі і райвыканкома, якія цвёрда стаялі супраць адкрыцця касцёла, надрукавалі некалькі лістоў таксама «супраць». І вось дэлегацыя прынесла ліст «за». Цікавыя былі дзядзькі. Узрост прыблізна аднолькавы — каля шасцідзесяці. Напрацаваныя рукі, адкрытыя твары — людзі, якім у жыцці не патрапіла адарвацца ад «сахі і касы». Цесляры, будаўнікі, кавалі. У начальства, нават дробнае, не выйшлі, але ні кропелькі свайго своеасаблівага гонару не страцілі. «Чаго мне баяцца, сякеру ў мяне ніхто не адбярэ». Яны ішлі ў хадакі і запявалы гэтага «нефармальнага» руху без боязі: дзякаваць Богу, за гэта ўжо ні ім самім, ні дзецям рэпрэсій чакаць не трэба. Гэта новы час паказаў выразна. Дзядзькі, прайшоўшы кабінеты ад Пастаў да Мінска, павоannotations дзіны выпрацавалі адпаведныя, нават на калені дружна станавіліся.

А вось вера ў іх была сапраўдная. Вера найперш у тое, што касцёл дапаможа іх дзецям і ўнукам не загінуць у пошасці грахоў, якіх яны бачылі так шмат наўкола.

Іх ліст мы, канечне, тады не надрукавалі. А касцёл неўзабаве адчынілі. Да Масквы дзядзькі дайшлі. А Масква гэтым слязам тады ўжо верыла.

А потым яшчэ больш змяніліся часы. І не трэба было для таго, каб адчыніць касцёл ці царкву, збіраць грошы на паездку ў Маскву. Сёння ў Пастаўскім раёне дзейнічаюць 5 касцёлаў і 5 цэркваў. Неўзабаве дамогуцца рэгістрацыі каталіцкая і праваслаўная абшчыны ў Варапаеве. Калі дадаць да гэтага дзве царквы старабрадцаў, абшчыны баптыстаў і евангелістаў — «ахоп» 50-тысячнага насельніцтва раёна (З чым параўнаць? Ну хаця б з дамамі культуры) зусім неблагі. Амаль такі, як і ў даваенныя часы, калі храмаў на нашай зямлі было столькі, колькі іх трэба было людзям.

Чамусьці часта ўспамінаю тую дэлегацыю. Ды і сёння сустракаюся з гэтымі дзядзькамі часта, суседжу. У бацькоўскай хаце з такімі ж, як яны, сядзім за адным сталом пасля нячастых цяпер талок. Як жывяце, шаноўныя? Нялёгка. Вы якраз і ёсць тое «насельніцтва», якому і прыхільнікі, і праціўнікі рынку дружна зацягваюць паясы. І што вам заклікі брацца за справу, каб пераадолець цяжкасці? Справу сваю і рамяство вы ніколі не кідалі і да смерці не кінеце.

Я ва ўсе часы не перабольшваў вашай веры ў Бога. Як і ўсё ў гэтым жыцці, яна ў вас і выкрышталізоўвалася, і абмяжоўвалася адначасова жыццёвым вопытам, мудрасцю і досціпам. Але вам і жонкам вашым, якія яшчэ больш дбаюць аб набажэнстве дзяцей і ўнукаў, сёння прасцей. Касцёл і царква пабліжэлі.

А вось нам цяжэй. Тым, хто дбае пра нацыянальнае адраджэнне і каму перабудова таксама фортку прыадчыніла.

Наколькі я магу зразумець са сваёй глыбінкі, у сталіцы нашага адраджэння пануе пэўная эйфарыя. Лічыцца, што адраджэнне рэлігійных канфесій на Беларусі ідзе калі не ў адным рэчышчы, то ў адным напрамку з нацыянальным. Відаць, гэтаму спрыяе і сама царква, якая шчодра раздае авансы. І прэса адзінкавыя выпадкі зліцця гэтых дзвюх плыняў падае вельмі шырока.

Але рэчаіснасць, на жаль, зусім іншая. Мяркую па сваёй Пастаўшчыне, якая не можа быць выключэннем. Неяк узяў у рукі аловак і пачаў запісваць: ксёндз у Лынтупах — паляк, у Паставах — паляк, у Дунілавічах — паляк... Бацюшка ў Манькавічах і Груздаве — украінец, у Паставах — рускі... Немалаважная гэта прычына таго, што стаўленне да беларускасці ў царкве варожа-нейтральнае, у касцёле часцей за ўсё — зусім варожае. Па сваёй волі ці не па сваёй вядуць такую палітыку святары — меркаваць не бяруся. Ведаю адно: і пры касцёле, і пры царкве ў Паставах даўно ўжо дзейнічаюць школкі для дзяцей, дзе ўнукаў і ўнучак маіх дзядзькоў, якіх у агульнаадукацыйных школах яшчэ толькі збіраюцца вучыць на роднай мове, вучаць па-расейску і па-польску. І школкі гэтыя ў іх жыцці ўжо «вышэйшыя».

Неяк нядаўна завітаў зноў у рэдакцыю адзін з тых, дэлегацкіх дзядзькоў. Прынёс аб'яву аб раскладзе работы курсаў па вывучэнні польскай мовы для дарослых. Адпаведныя беларускія каторы год збіраюцца адчыняць, гэтыя ж — паспяхова дзейнічаюць. Дзядзька выконвае абавязкі старасты. Ён і не хавае, што галоўны ініцыятар і ці не фундатар курсаў — касцёл.

На гэты раз гаворка атрымалася ў нас больш шчырая. І прозвішча чалавека, і гаворка сведчылі аб яго беларускасці. Родным, вясковым, так і не пераадоленым умовамі местачковага жыцця веяла ад кожнага слова. Але называе ён сябе палякам, як і дзяцей, унукаў сваіх. Пераканаць у адваротным шчырага, простага чалавека немагчыма. Яно ж ад першай споведзі, ад глыбінных дзіцячых уражанняў у касцёле.

Нястомны збіральнік гісторыі роднага краю І. Быхавец адшукаў нядаўна цікавы дакумент: справаздачу аб дзейнасці народнага вучылішча ў Лынтупах за 1909—1910 навучальны год. Цікавыя тут звесткі аб дзейнасці школы, і, між іншым, аб нацыянальнасці вучняў. Беларусаў — 91, рускіх — 4, яўрэяў — 5, палякаў — 3. Сярод беларусаў бачым: Адамовіч, Бондар, Вайцяховіч, Дрозд, Гайлюн, Гарбуль, Мачульскі, Рэдутка, Спірыдон, Урбан, Хмылка, Шапель, Шыкавіч, Ягела, Янкевіч, Янчуковіч, Яскевіч. Большасць людзей, якія сёння носяць гэтыя прозвішчы ў Лынтупах, лічаць сябе палякамі. Каментарыі не патрэбны. А прайшло ўсяго восем дзесяцігоддзяў. Два пакаленні маіх землякоў выраслі на роднай зямлі, але — каля касцёла. Які і сёння адыгрывае ў нас тую ж ролю.

**А. КАСЦЕНЬ.**

г. Паставы.

І СМЕХ, І ГРЭХ

# ЯК МЯНЕ РАБІЛІ СТУКАЧОМ

У далёкія брэжнеўскія часіны, дзесьці на мяжы 70-х ды 80-х, я цвёрда верыў у светлую будучыню. Таму вераю ды праўдаю служыў «розуму, гонару і сумленню нашай эпохі». У «Сельгастэхніцы», пад час працы інжынерам-кантралёрам у рамонтнай майстэрні, на грамадскіх пачатках кіраваў камсамольскай арганізацыяй. Налічвалася ў ёй каля 50 камсамольцаў. Як і ўсюды, сярод іх было нямала гультаёў і п'янтосаў. Аднак нервы тады былі моцныя, і я з тым даручэннем няблага спраўляўся. І хоць сходы збіралі раз у год (трэба было штомесяц), пратаколы ў мяне былі ў поўным ажуры. Прыедзе праверка з райкома камсамола, пагартае паперы, ды хваліць мяне за верную службу справе Леніна.

Адзінае, дзе крыху сапраўды прымаў удзел мой камсамол, гэта спартыўныя спаборніцтвы. І прыходзілі на іх, калі паабяцаеш тры рублі. Затое пасля спаборніцтваў камсамол абуджаўся, таннае віно лілося ракою. Толькі не падумайце, што сябе выстаўляю гэткім чысценькім партыйным анёльчыкам. Піў разам з усімі. Ды і прафсаюзную касу рабаваў, бо на харчаванне ўдзельнікам спаборніцтваў давалі толькі 1 руб. 20 кап., а ўдзельнічаць пагаджаліся толькі за траяк — даводзілася прыпісваць мёртвых душаў. І вось за падобны «актыўны ўдзел у гаспадарчым і культурым будаўніцтве, плённую работу па камуністычным выхаванні моладзі і ў сувязі з 60-годдзем ЛКСМ Беларусі» 23 верасня 1980 года далі мне Грамату Вярхоўнага Савета БССР. А перад гэтым атрымаў яшчэ адну ўзнагароду, за якую буду ўдзячны Лепельскаму райкому камсамола ўсё сваё жыццё.

Але ўсё па парадку. Неяк на канцы 79-га года выклікаюць мяне ў райком ды прапануюць за 330 рублёў 20-дзённую пуцёўку ў В'етнам. Адразу даў згоду.

**Паперы афармлены. Ад'езд прызначаны на 16 лютага 1980 года. За колькі дзён да яго выклікае мяне кіраўнік «Сельгастэхнікі» Уладзімір Галушка. У кабінеце сядзіць нейкі спрытны з выгляду чалавек. Ветліва просіць кіраўніка пакінуць нас удвух. Той борздзенька выходзіць. Незнаёмец прадстаўляецца супрацоўнікам органаў дзяржбяспекі, пасля чаго ў мяне ад страху пачынаюць дрыжаць каленькі. Кэдэбіст пачаў з усхвалення нашай сацыялістычнай рэчаіснасці ды перспектыў светлай камуністычнай будучыні. Аднак, як ён сказаў, не па нутры нашы грандыёзныя дасягненні драпежным акулам капіталізму. Дзень і ноч яны выношваюць планы, як захапіць нашу вольную федэрацыю ды разбурыць самы гуманны ў гісторыі чалавецтва лад. Словам, вораг не спіць. І вось я еду якраз туды, дзе гэты самы вораг не спіць. І правакацыі, а асабліва схіленні да здрады, будуць чакаць мяне на кожным кроку. Мой цвёрды характар ды непахісную адданасць самай справядлівай партыі ў свеце чалавек з КДБ ведае, аднак усялякае можа здарыцца. Таму я павінен строга прытрымлівацца інструкцый. якія зараз атрымаю, ды абавязкова ўсё запамінаць. а пасля вяртання зайсці ў Лепельскі КДБ і аб усім распавесці. Я паразумела хітаю галавою.**

**Там будзе прысутнічаць свой чалавек з КДБ, гаворыць ён, толькі я не павінен шукаць зносінаў з ім. Калі ўзнікне неабходнасць, ён сам мяне знойдзе і назавецца чалавекам ад Івана Іванавіча. І вось тады я магу яму цалкам адкрыцца. Аб нашай жа размове — нікому ні-ні.**

У Маскве, у гатэлі «Арляня», праходзіць першая сходка гурта. Нас больш за 20 чалавек. Усе з Віцебска, Берасцейскай ды Гомельскай абласцей. Старшы гурта — сакратар Гомельскага абкома камсамола. Памочнік яго — працуе ў тым жа абкоме (прозвішчы ўжо не памятаю). Аднак мы ні ў якім разе не павінны нікому казаць, што нашы кіраўнікі — работнікі абкома, яны — інжынеры з завода.

Кіраўнікі перапісалі ўсіх членаў КПСС. Назвалі нас сваёй правай рукой, заклікалі быць пільнымі ды абавязалі ўзяць кожнаму па 2 бутэлькі гарэлкі. Бо ў В'етнаме ў савецкіх людзей адразу пачынаюцца разладжванні страўнікаў, ад якіх не дапамагаюць ніякія антыбіётыкі. Толькі гарэлка спыняе павальныя паносы.

ТУ-154 сеў у Бамбеі. Першае слова, якое прачытаў у далёкай ды недасягальнай Індыі, было славутае спалучэнне з трох літараў унутры кабіны аэравакзальнай прыбіральні.

У цэнтры Ханоя пасяліліся ў гатэлі «Дэмакратыя». Гурт яшчэ ў Маскве паспеў падзяліцца на свае кампаніі. Мы, віцебцы, ледзь паспеўшы размясціцца, адразу сабраліся ў нумары галоўнай бухгалтаркі з Вялікіх Дольцаў Тані. Пілі гарэлку, якою меркавалі ратаваць страўнікі ад паносаў. Калі яны нас прыхопяць — невядома, а выпіць хочацца ўжо.

Не хапіла прывезенай гарэлкі. Электрык з Чашніцкай папяровай фабрыкі па мянушцы Сэм пабег без в'етнамскіх грошай па начным Ханоі шукаць дабаўкі. Нам пад страхам на працягу 24 гадзін быць вывезенымі ў Саюз забаранялася кантактаваць з замежнікамі. Аднак вельмі ўжо выпіць хацелася. І прынёс Сэм «гаручага»: паўлітэрку рысавай самагонкі.

Языкі развязаліся. Так, слова за слова, высветлілася, што ўсіх камуністаў перад ад'ездам аднолькава інструктавалі кэдэбэшнікі. І ўсе з боязззю ды перасцярогаю чакалі з'яўлення чалавека ад Івана Іванавіча. Пачалі прыкідваць, хто б гэта з гурта мог быць. Рашылі — хутчэй за ўсё кіраўнік. Пра Сэмаву вылазку — нікому ні-ні.

Праз колькі дзён нас перасялілі на ўскрай Ханоя ў гатэль «Вікторыя». Ужо за в'етнамскія донгі купілі ў бары 46-градуснай рысавай гарэлкі, добра выпілі. Дзве нашы сяброўкі, культасветработніцы з Нароўлі, неяк спаткаліся з двума венгерскімі спецыялістамі ды пайшлі «кантактаваць» да іх у нумар. Нас не цікавіў іх занятак, аднак пачуццё падказвала, што без гарэлкі там не абыходзіцца. Бар ужо быў зачынены, а выпіць вельмі хацелася... Пастукаліся. І нам налілі. Так адбыўся мой першы кантакт з замежнікамі. Дамовіліся — нікому ні-ні.

Курорт Дашон на беразе Паўднёва-Кітайскага мора. У двары бара — танцы. Мяне чамусьці ўпадабаў інжынер-грузін, які даўно тут працуе. Пачаставаў гарэлкаю, запрасіў заўтра прыйсці ў інтэрклуб.

У інтэрклуб мы з'явіліся ўчатырох — я, Сэм, Тая, Таня. Пасадзілі нас за агульны стол з палякамі, чэха-славакамі, венграмі. Гарэлкі — мора. І тут, не памятаю з чаго, пачаў я даказваць грузіну, што паколькі мы з Савецкага Саюза, для в'етнамцаў мы ўсе рускія.

— С какого Союза? Я с Грузыи! Я грузын! — не вытрымлівае грузін.

— І я з Беларусі, — тлумачу, — аднак для в'етнамцаў я — рускі, хоць сам я й беларус.

— Ты может и русский, а я — грузын! — ужо крычыць мой новы сябра.

Доўга вялі мы безвыніковую палеміку на смех нашым братам з сацыялістычнага лагера. Кожны застаўся пры сваім меркаванні. А вечарам хтосьці «заклаў» аб нашым паходзе ў інтэрклуб ды сварцы там кіраўніку. (Мы з Сэмам між сабою абвінавацілі ў стукацтве Таню). Ух і даваў ён мне раніцай перад усім гуртам! Назваў увогуле запрашэнне ў інтэрклуб правакацыяй. Яшчэ падобнае — і я буду праз 24 гадзіны ў Саюзе. А там са мною хутка разбяруцца. І вось цяпер, амаль праз 12 гадоў, я вельмі і вельмі ўдзячны таму грузіну. Гэта ён упершыню расплюшчыў мне вочы на тое, што я — беларус.

Далей былі Сайгон (Хашымінам ніхто гэты горад не называў), Вунгтау на беразе Паўднёва-Кітайскага мора, Хіён, востраў у дэльце Меконга, партызанская база ў джунглях, на зваротным шляху — Рангун, зноў Бамбей, Эль-Кувейт. Не хапае месца аб усім распавесці.

Ужо ў цягніку Масква — Берлін мы, віцебцы, дамовіліся «тапіць» кіраўніка, калі пойдзем на справаздачу ў КДБ. Кожнаму ён уеўся ў пячонкі. Асноўнай жа прычынай паслужыла тое, што па прапанове кіраўніка мы стварылі «грамадскі» фонд, аддаўшы яму кожны па 20 донгаў (нам выдалі па 200 донгаў). Куды дзеліся гэтыя чатыры сотні, ніхто не ведаў. Коса толькі пазіралі на дарагі букет кветак, які кіраўнікоў памочнік вёз сваёй жонцы на 8-е Сакавіка.

На другі дзень пасля прыезду бяру пяцігадовага сына для перастрахоўкі (раптам захочуць арыштаваць, а з дзіцем не асмеляцца), іду да двухпавярховага будынка з вузкімі вокнамі. Цісну на званок пры ўваходзе, як таго патрабуе шыльдачка. Дзверы хутка адчыняе знаёмы ўжо ладны мужык, ветліва запрашае наверх. Там сядзіць яшчэ адзін. З цікавасцю выслухоўваюць мае ўражанні аб паездцы. Сын тым часам засынае. Затым пытаюць, ці былі сексуальныя сувязі ва ўдзельнікаў паездкі. Кажу: былі паміж членамі гурта. Адразу перапыняюць — маўляў, гэта іх не цікавіць, яны маюць на ўвазе сувязі з замежнікамі. Тут я й распавёў пра пікнік з венгерцамі ў нумары «Вікторыі». Сваю прысутнасць там растлумачыў не цягаю выпіць, а жаданнем пракантраляваць, аб чым будуць размаўляць нараўлянкі. Распавёў аб тым, як у Ханойскім аэрапорце кіраўнік гурта з памочнікам раздавалі камсамольскія значкі аўстралійскім журналістам, а тыя паначаплялі іх на майкі якраз на месцы, дзе знаходзяцца пупы. (На маю думку, такая абраза чырвонага сцяга ды выявы Леніна павінна была канчаткова знішчыць кіраўніка). Каб сябе перасцерагчы, не забыўся аб дыскусіі з грузінам (на той час я быў шчыра перакананы ў сваёй слушнасці). Асноўны акцэнт зрабіў на грамадскі фонд донгаў, які скруцілі кіраўнікі паездкі.

Усё сказанае дзядзькі з КДБ падрабязна пазначалі ў нататнікі. Затым спыталі, ці чуў ад каго ў «Сельгастэхніцы» выказванні аб незадаволенасці савецкай уладай. Адказаў, што не даводзілася. Ветліва развіталіся. Папярэдзілі, каб аб нашай гутарцы — нікому. Запрасілі абавязкова заходзіць, калі пачую ад каго антысавецкія выпады. Паабяцаў. А сам думаю: хрэн вам, нагі маёй тут больш не будзе. І не было. Самі потым да мяне прыходзілі. Але гэта ўжо пасля таго, як падтрымаў Беларускі народны фронт ды выйшаў з партыі.

**Уладзімір ШУШКЕВІЧ,**
**старшы дыспетчар завода шасцерняў.**

г. Лепель.

ЧАС І МЫ

# Душы павінны вызваліцца

## Эсэ пра помнікі і не толькі пра іх

І ДЗЕ станаўленне нашай новай дзяржаўнасці. Новая дзяржаўнасць павінна мець новыя сімвалы. На жаль, з неабходнасцю гэтага абнаўлення згодны не ўсе. Многім усё роўна — які сцяг над намі развяваецца, абы ў кішэні і ў халадзільніку не было пуста.

Але не будзем спяшацца з асуджэннем. Гэты нігілізм — адлюстраванне цынізму ўлады. Людзі, якія працавалі сярпом ці молатам, ніяк не адчувалі таго, што гэтыя прылады працы красаваліся на дзяржаўным гербе. Гэта ніяк не ўплывала на абставіны іх жыцця, іх заробак і на ўзровень іх залежнасці ад дзяржаўнай машыны. Не трэба здзіўляцца, што многія ўспрымаюць змену дзяржаўнай сімволікі, як чарговую змену дэкарацый у адным і тым жа спектаклі.

Дзяржава так доўга ашуквала нас, што выхавала трывалы імунітэт супраць уласных ідэалагічных атрыбутаў. Здаецца, што мы ўжо перасталі іх заўважаць, і аднолькава абыякава ходзім міма помнікаў правадырам, зламаных лавак, надпісаў «Слава труду!», «піянераў з горнам» і перапоўненых смеццевых кантэйнераў. Гэта — асяроддзе нашага пражывання. Мільёны прывыклі да яго, прыцярпеліся і, здаецца, ужо не заўважаюць ні помнікаў, ні смецця. Але гэта толькі «здаецца». Гэтаксама як Халстамеру, які тужліва брыдзе ў аглоблях: здаецца, што ён не заўважае ні аглобляў, ні хамута, ні воза, які цягне. Але... ён вельмі добра ўсё гэта заўважыць, калі захоча пусціцца наўскач!

Мне здаецца, што ідэалагічныя сімвалы, якія паўсюдна нас акружаюць, маюць велізарнае, хай не заўсёды ўсвядомленае ўздзеянне на нашу псіхіку. Менавіта яны фарміравалі і фарміруюць той унікальны менталітэт «гома саветыкус», якому дзівіцца ўвесь свет. Камуністычная наглядная прапаганда была не толькі славалюбствам бальшавікоў, якія ўвекавечвалі самі сябе: яна была неабходным інструментам дзеля «ампутацыі» духоўных і культурных каштоўнасцей. Нельга ж праводзіць антыцаркоўную палітыку, калі навокал царкоўныя званы, нельга гаварыць аб прыгнёце царызму ля крыжа, пастаўленага ў памяць аб забітым Вялікім князе. Неабходна было знішчыць усе бачныя сімвалы хрысціянства і манархіі, каб насадзіць манархію генсекаў і новую рэлігію — камунізм. Нас на доўгія гады зрабілі язычнікамі, якія пакланяюцца ідалам і ідэалогіі.

Спачатку камуністычная прапаганда ўспрымалася мільёнамі, як заклік да рэкордаў і барацьбы з ворагамі, як сімвал нашых будучых перамог. Але чым больш народ страчваў веру ў ілюзіі, чым больш стамляўся ад цяжкай і недарэчнай працы, тым больш яна станавілася сімвалам непахіснасці таталітарнай сістэмы. Назвы і лозунгі, што натхнялі нашых бацькоў і дзядоў, ператварыліся для нас у бачныя сімвалы той сістэмы, якая столькі год ціснула нас і не давала нам дыхаць, якая зрабіла нас вялымі, апатычнымі, зласлівымі, безыніцыятыўнымі, зняверанымі. Яна прывучыла нас зайздросліва глядзець у чужую кішэню — мо там болей, чым у мяне?

Цяпер нам неабходна стаць іншымі: смелымі, прадпрымальнымі, энергічнымі, паважаючымі працу, сваю і чужую; нам трэба пазбавіцца бязвер'я і абыякавасці, сабранай за дзесяцігоддзі злосці, душэўнай стомленасці. Гэта вельмі цяжка. І немагчыма, пакуль мы жывём усё ў тым жа, насычаным таталітарнай ідэалогіяй асяроддзі.

Тое, што іранічна называюць «свербам перайменаванняў»,— гэта натуральнае жаданне мільёнаў людзей пазбавіцца ад псіхалагічнага ціску таго, што надакучыла, раздражняе, чаго няма ўжо сіл ні бачыць, ні чуць. «Сон розуму нараджае пачвар». Але слушна і тое, што розум, які прачнуўся, існаваць у акружэнні пачвар не хоча.

У той жа час ёсць тысячы людзей, якія **супраць** таго, каб зносіць і змяняць назвы. Асноўная дыскусія ідзе вакол помніка Леніну перад домам урада. Праціўнікі пераносу нават арганізавалі яго абарону. Мне здаецца, што трэба іх зразумець і пачуць іх аргументы. Зрэшты, было б вельмі сумна, калі б нават статуя гэтага чалавека ўнесла дадатковую канфрантацыю ў наша і без таго расколатае грамадства. Думаю, што частка абаронцаў помніка — гэта людзі старэйшага пакалення, звязаўшыя свой лёс і надзеі з камуністычнай ідэалогіяй і сістэмай. Не ўсе з іх знайшлі ў сабе мужнасць і інтэлектуальную смеласць усвядоміць: жыццё аддадзена хімерам. Камуністычным ідалапаклоннікам таксама страшна ўбачыць статую Леніна звергнутай. (Як страшна было кіяўлянам убачыць статую Перуна плывучай па рацэ. Расфарбаваны драўляны ідал здаваўся ім Богам. У жудасці беглі яны па беразе Дняпра і крычалі: «Выплывай, Божа, выплывай!»). Такім чынам, згаданыя людзі абараняюць **не** статую, а сваё пражытае жыццё, аддадзеныя гады і сілы. Гэта... ашуканае пакаленне, яму можна спачуваць, але ж чым яму дапамажаш?

На маю думку, не трэба ўспрымаць Леніна як вульгарнага злодзея з крывавай сякерай. Гэта быў складаны чалавек, ён любіў сваіх родных і блізкіх, клапаціўся аб іх. Хто ведае, колькі добрых пачуццяў і намераў ён «задушыў» у сабе дзеля служэння ідэі. Магчыма, як сцвярджала Надзея Канстанцінаўна, сэрца яго сапраўды білася гарачай любоўю да ўсіх працоўных. І зусім верагодна, што не са зладзейскіх намераў, а менавіта ад гэтай «абстрактнай» любові да «абстрактных» працоўных марылі голадам і расстрэльвалі канкрэтных людзей.

«Абстрактнага» чалавека наогул любіць лёгка. Ён ніколі не падмане нашых жаданняў. Мне здаецца, што абаронцы Леніна таксама любяць яго... абстрактна. Як абстрактны сімвал нашых міфічных дасягненняў і імкненняў да светлай будучыні. Мне здаецца, калі б прыхільнікі Леніна маглі перанесціся на якойнебудзь машыне часу ў 18-ты год і канкрэтна пабачыць, што тварылася ў падзямеллях ЧК, іх колькасць значна б паменшылася, бо многія б зразумелі, што **такое** немагчыма апраўдаць камуністычнай ідыліяй.

Сярод праціўнікаў пераносу шмат людзей, якія неадназначна альбо і зусім негатыўна адносяцца да Леніна. У іх таксама ёсць аргументы, якія трэба выслухаць.

Аргумент першы — мы занадта бедныя: няма ні цэменту, ні матэрыі, ні цвікоў. Трэба спачатку выжыць, стаць заможнымі, а ўжо потым займацца помнікамі і перайменаваннямі. Але, на жаль, парадаксальнасць становішча ў тым, што пакуль мы жывём, па выказванні Маякоўскага, «под Лениным», цвікоў у нас ніколі «ўдосталь» не будзе. Для таго, каб выжыць, а тым больш разбагацець,трэба адмовіцца ад апатыі, навучыцца паважаць сябе і сваю працу — змяніць нашу «саўковую» псіхалогію.

Але мы не зменімся, пакуль жывём пад старымі сімваламі. Тых нешматлікіх духоўных каштоўнасцей, якія мы яшчэ не страцілі, недастаткова нават для таго, каб выжыць, а тым больш стварыць заможнае грамадства. Каб працаваць, закасаўшы рукавы, трэба ведаць — дзеля чаго. Мы павінны адрадзіць страчаныя каштоўнасці і, па-першае, веру і гістарычную памяць народа; мы павінны набыць і засвоіць новыя каштоўнасці — каштоўнасці дэмакратыі. Для эканамічнага адраджэння патрэбен духоўны рэнесанс!

Калі Ленінград перайменавалі ў Санкт-Пецярбург, яго жыхары зрабіліся спадкаемцамі велічы і славы гэтага горада. Яны ходзяць па тых жа абшарпаных вуліцах, але яны сталі **адказнымі** за гэты горад перад сваімі продкамі і нашчадкамі, а, значыць, абшарпаных вуліц яны больш не пацерпяць.

Аргумент другі — гэты помнік мае гістарычную і мастацкую каштоўнасць, ён гарманіруе з ансамблем плошчы, асабліва з домам урада. Слушна, каштоўнасць ён мае і гарманіруе з будынкам у стылі канструктывізму. Але канструктывізм — гэта універсальны стыль, ён быў папулярны ў 20-х, 30-х гадах ва ўсім свеце, і ён не нясе ніякай ідэалагічнай нагрузкі. Зразумела, перад будынкам у гэтым стылі нельга паставіць статую Венеры з Амурам, але зусім неабавязкова перад ім павінен стаяць менавіта гэты помнік з менавіта гэтай статуяй. Гэта можа быць другі помнік, другое афармленне плошчы, якое таксама не парушыць гармоніі. Я ўпэўнена, калі перанесціць помнік у другое месца, дык дом урада ламаць не прыйдзецца.

**Помнік Леніну — гэта таленавітае мастацкае ўвасабленне ідэі таталітарызму.** Безумоўна, яго трэба захаваць для нашчадкаў, але ў музеі пад адкрытым небам, які нам неабходна стварыць, каб мець наглядную перасцярогу супраць таталітарызму. Галоўная плошча дзяржавы — гэта не мастацкі музей і не музей васковых фігур. Гэта не тое месца, куды ходзяць на экскурсіі — гэта месца, дзе працякае наша дзяржаўнае і палітычнае жыццё, твар нашай дзяржавы перад усім светам. Статуя перад домам урада — сімвал народа і дзяржавы. Ці магчыма, каб нашу абноўленую дзяржаўнасць сімвалізаваў стваральнік таталітарнай сістэмы?

Мы жадаем стаць дэмакратычнай краінай. Можна па-рознаму адносіцца да Леніна, але ці заслужым мы павагу сярод цывілізаваных народаў, калі наш урад будзе спакойна паглядаць з вокнаў на фігуру вынаходніка канцэнтрацыйных лагераў, на помнік чалавеку, які ўсё жыццё з пагардай ставіўся да дэмакратыі?

У Францыі ёсць помнікі якабінцам, але не перад Елісейскім палацам (як сімвал Французскай Рэспублікі). Да таго ж, з'явіліся яны не адразу пасля якабінскай дыктатуры, а, мусіць, на сто гадоў пазней, калі ў свядомасці французаў згладзіліся раны, нанесеныя рэвалюцыяй, калі настала пара прымірэння, і праўнук закатаванага арыстакрата змог выпіць шампанскага з праўнукам якабінца. Для нас гэты час яшчэ не надышоў, бо далёка не ўсе могуць глядзець на Леніна толькі як на гістарычную постаць. Многія прайшлі праз лагеры, у многіх загінулі бацькі. Раны, нанесеныя таталітарызмам, яшчэ не загаіліся. І мы, на жаль, да гэтай пары атручаны таталітарызмам. Мы яшчэ далёка не цалкам вызваліліся ад яго ні ў мысленні, ні ва ўчынках.

Наша імкненне пазбавіцца ад таталітарных сімвалаў — гэта ў многіх адносінах імкненне адысці ад сябе ўчарашніх. Яно зразумела, але змяшчае ў сабе пастку. Існуе ж вялікая спакуса ўявіць, што калі ў нас і сцяг, і герб, і назвы — усё новае, дык і самі мы зрабіліся найноўшымі! Калі б так! На жаль, нам яшчэ доўга прыйдзецца вызваляцца ад таталітарызму ў сваёй ментальнасці. І мне здаецца, чым больш мы будзем крытычнымі да сябе, тым хутчэй мы здолеем «дэмакратызаваць» уласную свядомасць.

...І ўрэшце, апошні аргумент абаронцаў помніка— самы сур'ёзны, на мой погляд: «Хопіць руйнаваць да грунту!» Як гэта ні дзіўна, але статую бальшавіцкага правадыра абараняюць з-за **непрымання** бальшавіцкіх жа метадаў. І сапраўды, калі разглядаць сітуацыю на ўзроўні дзеясловаў, дык ёсць нейкая аналогія: тады знішчалі і цяпер пачынаюць знішчаць. Што ж зробіш? Не ўсе помнікі правадырам варты быць у музеі навейшай гісторыі. Да таго ж, адных помнікаў Леніну столькі, што іх колькасць занесена ў кнігі Гінеса, і пры ўсім жаданні іх захаваць музеяў не хопіць.

Але давайце разгледзім становішча больш падрабязна. Давайце параўнаем — што знішчалі тады і што хочуць знішчыць цяпер. Пасля кастрычніцкага перавароту знішчаліся духоўныя і культурныя каштоўнасці. Каб пасля пабудаваць капішчы новым ідалам. Вядомы рускі філосаф Г. П. Фёдараў смуткаваў аб тым, што помнікамі Леніну «будет осквернена Россия». Але не толькі Расею — усю велізарную імперыю ўтыкалі бюстамі Ільіча. І мы жывём на апаганенай зямлі. Дык няўжо апаганенай перададзім яе нашчадкам?

Трэба падумаць, у якім асяроддзі будуць гадавацца нашы дзеці. Калі вы прыйдзеце з дзіцем на плошчу, што вы скажаце яму пра гэты помнік? Гэта добры дзядок? Тады на якіх маральных крытэрыях вы будзеце выхоўваць сваё дзіця? Альбо, наадварот, вы скажаце — гэта не добры дзядзька, але ж у нас прынцып такі — нічога не ламаць, хай стаіць?..

Мы не хочам бачыць сваіх дзяцей рабамі, згодлымі цярпець усё заўгодна. Не трэба, каб яны гулялі каля «жалезных» правадыроў. Мы ўжо пакідаем ім Чарнобыль — дык давайце пакінем ім хаця б маральна і ідэалагічна чыстае асяроддзе існавання. Мы хочам бачыць сваіх дзяцей свабоднымі і са здаровай душой.

**Тацццяна ПАЛЯКОВА,**
сябра БСДГ.



Фота Г. ЧАРАВАЧА.

**Алесь КАСКО**



# Палессе

Шаша пры канцы дваццатага.
Раўніннасць. Ані ляска.
З тугой, без былой зацятасці
плёў меліяратар сказ:
маўляў, ужо дакарчоўваем...
А я пазіраў туды,
дзе вёска не зачароўвала —
прыхоўвала ад бяды
рот марлеваю палоскаю
ды сеяла цяжкі хлеб:
нібыта прышэльцы з космасу
спусціліся ў новы стэп.
Ах, што ж я! Мае спакрэвічы,
асілкі маёй зямлі...
Згадалася: Караткевіча,
нібы караля, вялі;
паказвалі, бы акропалі,
бары, курганы... Той год
далёкі быў ад Чарнобыля,
хаця й прыкрываўся рот.
Сямі- і васьмідзесятыя.
З паэтам бары сышлі...
Мы ехалі. Як распятыя,
кружлялі, плылі буслы.
І нема іх душы ўскрыквалі:
не стала б — ці ўберажом!! —
зямля пад белымі крыламі
зямлёй пад чорным крыжом.

# Філалагічная балада

Цяплом з-за далечы снягоў
раздзьмула памяць — і не спіцца.
Паклікалі. Спытаў:
— Чаго!
— Не околел!
Сказаў:
— Як быццам.
Гульню ўсчалі:
— Ты уж один
из наших «щирих» белорусов
остался...
Адказаў:
— Вядзі,
ад кроўных слоў не адракуся.
І... адпусцілі — аднаго,
каб мог «зямляк» спаўна накпіцца
з яго зацятага «чаго!»,
з яго бяссільнага «як быццам»,
Штокрок хмурнелі кедрачы,
і слаўся следам брэх сабачы.
А ён — ішоў,
ён і ўначы
далёкую краіну бачыў.
Хадзіць ён прагнуў па зямлі
сваёй,
на славу невычэрпнай,
дзе колісь мову берaглі
аднолькава і князь, і чэлядзь.
Ён рыхтаваўся жыць і так,
адзіным сынам у айчыны.
Ці дрэва,
ці трава,
ці птах —
уласнай мове навучыў бы.
Адно б — да родных берагоў,
адно б — туды, дамоў...
Гукнулі:
— Назад!
Спыніўся ён:
— Чаго!
Бязмоўна адказалі кулі.

●

Мы ўсе нявернікі. Ману
лапочам нават у маленні.



*Марыя Вайцяшонак*

# Начная госця

*апавяданне*

І МЧАЛІ на дачу амаль паўначой, бо назаўтра госця ўжо была павінна вяртацца дамоў, у Маскву — Ванда тут праездам, неспадзявана. Ганна нават і не ўспомніць, чыя гэта прапанова —усталі з-за стала, раптам загаварылі ўсе разам, вырашылі ехаць. Ехаць! Калі яшчэ давядзецца ўбачыць, а вельмі госці карцела: жарт, адна Ганна з двума дзецьмі купіла, кажуць, хату ў вёсцы пад дачу, зрабіла і рамонт.

Дарога бы ўпляталася ў Ганніны даўгія валасы, галава цяжэла. Варта было ёй толькі нагой ступіць на гэты шлях да дачы, як адразу абступалі розныя перадумкі, клопаты: а як там без яе? Паспела во ўхапіць пустую пушку з-пад пыласоса, вязе — абы выдалася якая машына, трэба яе спажыць з толкам. Не, каб яна села так сабе, гуляючы, слабодна, весела. Яшчэ не адпускаў дом задалёка ад сябе, трымаў сэрца — яшчэ ж і ганак быў недароблены. І студні не было, і тое, і сёе неўпарадку. Ганна хвалявалася: што скажа Ванда, ці спадабаецца? Стоена чакала. Разумніца Ванда, самая наймудрэйшая сярод іх, самая кемлівая, зараз сталічная дама, даўняя прыяцелька, пасля смерці мужа абмянялася на Маскву, часта бывае ў заграНічных камандзіроўках, вось-вось толькі што з Амерыкі. Хіба яе чым здзівіш?!

Шкада, што не памятала, ці прыбрана хоць пакінула ў пакоях, калі ад'язджала апошні раз. Неспадзяваныя ж госці. Яна быццам ішла, бегла ўсю дарогу недзе наперадзе іх, адчыняла дзверы, кідалася, прыбірала са стала, хапала нейкую адзежыну з лавы, папраўляла на лежаку падушкі-ясечкі. А дом, вядома ж, не адзываўся. Стаяла гадзіннікавае кола, стрэлы-ветракі зачапіліся высока, ублыталіся ў галлё дуба каля ганка, зязюля сядзела, шчыльна зачыніўшыся. Дом не любіў абгледзіны, яна ўжо гэта ведала, трэба тут у ім заначаваць, пажыць — яго ж ставіў вясковы чалавек, не дачнік. Устаць трэба па-вясковаму рана, раніцай бліжэй падыходзілі да вокан кветкі з саду, бліжэй прыляталі птушкі. расплюшчваліся вочы. Павольна паварочваліся вокны да сонца. Пахла дымам з печаў, слупы стаяць роўна, на пагоду, акурвалася наваколле, свянцоныя кроплі росаў пад нагамі буйныя, па ягадзіне. Уздымаюцца за домам харугвямі вершаліны елак. Стаіш бы пераджагнаўшыся. Крыкне баба, выганяючы карову, — і слоў не разбярэш, бы яна скрозь сон загаварыла. Сцісне за плечы халадок і адразу адчуеш, што выслізнуў з цёплых абдымкаў дома — і азірнешся, і вернешся ў пакой ціхімі крокамі, каб не патрывожыць сцены. Колькі разоў яна клалася спаць такая ўжо стомленая, што, выдавалася, нават на абразах (падаравала суседка Надзя) у маткі боскай цямнейшыя, чым звычайна, кругі пад вачыма. «Ад плоту ґаніце», — наказвала дзецям капаць агарод. «А дакуль?» — пытаўся сын, каб хоць ведаць, ці шмат той работы на сёння. «Ад плоту... і да самага вечара...» — нявесела смяялася яна. А раніцай дзень учарашні, быццам праз галаву пеpакуліўшыся, зноў светлы, малады, зазіраў у хату, бы ў калыску. Ручніком ветрала ў гародзе белая з галубовым утокам кветка простага маку.

Чакала Ганна ад Ванды не здзіўлення, а нечага накшага... Прыязджала паглядзець на дачу сяброўка Аліна. Разам гадаваліся ў вёсцы, абедзве без бацькі, разам во ў адным горадзе—Аліна, здавалася, усё зразумее. Тая агледзела дом моўчкі, стала ля парога, раптам як ужаліцца: «Ай-яй, я ж ніколі такога дома не буду мець...» Ганна ўбачыла, як Аліна нечакана лёгка, не хаваючыся, перабегла ад яе на другі бок, стала насупраць чужаніцай, пакінуўшы яе ў гэтай радасці, што во атрымалася нарэшце, што во мае, бы ў горы, — адну, сам-насам. Быццам гэты дом Ганна выйграла, такая, бачыш, шчаслівая, быццам задарма дастаўся. І трэба кроіць яго напалам, бо ёй замнога, трэба дзяліцца, звыкла, на ўсіх: і на гультаёў, і на абібокаў... Ох, ужо гэты невыводны дух ураўнілаўкі... Алінка, у нас розны з табой лёс... розны заробак... рознае паразуменне, здольнасці, нарэшце. Не матлялася ты, гадамі не злазячы з лавы ў сваёй хімчыстцы, спякотай у «газіку» па вясковых дарогах, не змагла, па-простаму кажучы, седзячы да паўначы, над артыкулам, не круціла галаву, не сівела па чужых бедах... іншы раз не разняць вусны ад стомы... Чаму мы з табой павінны мець аднолькава?.. «А ў мяне, Алінка, пэўна ўжо не будзе такога, як твой Славік, мужа, не будзе добрага, прыгожага чалавека побач... не будзе тваёй машыны... чатырохпакаёвай кватэры...»—толькі што і сказала ўслых, каб хоць як-небудзь адмесці ад свайго парога гэтую невыводную чалавечую прагавітасць, сквапнасць... Прыехаўшы быў і сябар, аднакурснік, таксама газетчык. Той, зусім зніякавеўшы ад нечаканасці, падняў вочы да столі: «А тутака ў вас не цячэ?!» Пэўна, ніяк не мог выслабаніцца ад уяўлення той будыніны, якую можа, здольна паставіць адна без мужа жанчына: абавязкова дзіравая столь і разабраны на дровы хлеў — усё, што часцей сустракаецца ў рэдакцыйнай пошце ад адзінокіх удоў... «Во каб гэты дом быў мой, я б з яго лялечку зрабіла: фіраначкі ўсюды, сурвэтачкі, запінаначкі!» — казала другая сяброўка, адмаўляючы самой гаспадыні ўпрыгожыць гэтыя сцены...

Шмат хто наведваўся паглядзець. Ганна хадзіла з імі па пакоях, па садзе, праводзіла за варотцы. Не, не тыя госці, не тыя рэчы. Кожны, як у краме адзежыну, прымяраў яе дом да сябе. Яна ж стаяла ўбаку.

Ніколі не даводзілася прыязджаць на дачу так позна. Едзеш і следу, пылу за табой не відацца, як не дарогай, а налётам, ні хаты чыёй, ні чалавека, пахаваліся кусты і дрэвы, цёмна. Нешта недазволенае было ў гэтым. Спала вёска. «Вой, ножкі, ручкі баляць...» — недзе кідалася, пэўна, у сне суседка Надзя. Клала рукі каля сябе і так, і гэтак, як дзяцей, і ўверчвала ў цёплае, і зноў разверчвала, а яны ныюць, не дасі рады. Пачуе машыну, нягнутка паспрабуе ўстаць і адзін раз, і другі, тады кульнецца з ложка галавой уперад, ледзь паспеўшы стаць на балючыя ногі, заспяшаецца да акна, бы на калках. «Пакуль расходзішся, раскратаешся, — жаліцца звычайна. — Цьфу! — плюне сабе без злосці пад ногі, агледзеўшыся, што зноў абрындаўся падол спадніцы, нітка целяпаецца. — Няма калі за работай сябе прыбраць... Але што б я мела рабіць, каб не гэтая работа?!» Шукае лад, згоду ў маіх вачах. А ў ейных убачыш доўгі, нескончоны век сялянскі. І Надзя стаіць на варце гэтага веку пад сонцам, пад снегам, абнасіўшыся, закарэўшы. Сыпецца падол, ліняюць прыгожыя вочы, і змена не ідзе, некаму змяніць, каб пераапрануцца ці каб хоць вады ёй свежай прынесці глынуць — дзеці ў горадзе... Нашто было Надзю будзіць паўначой на гэтым калавуры... Шкада і Шурачку, і тая падхопіцца. Дасца ў акно птушкай. Няхай бы сабе спала, цяпер давідна ўжо не засне, узыдзе ёй на памяць, абы вочы адкрыла, муж Пётра, нядаўна яго пахаваўшы. «Я адна люблю на могілкі хадзіць, — расказвала неяк. — З сяброўкай былі дамовіліся ісці разам, дык я ўзяла і ўцякла ад яе. Мне трэба з Пётрам пагаварыць, пабыць без сведкаў, як гаворыцца, пасядзець удвух зачыніўшыся... Дапраўды, нябожчыкі ўсё чуюць, усё знаюць. Я памятаю, некалі кінула малых дзяцей і ежу ім не згатавала, работу з рук — і бягом на могілкі, да таты. Чую... ліст пацёк, пацёк толькі з дрэва, а тады нешта «вух!» з-пад ягонага каменя, «вух!». У мяне і валасы дубка. Я і ходу дамоў. Бягу, чую — свінні завішчэлі ў вёсцы — мне ўжо і весялей, я і смела... Пазнаў тата, што ў мяне няўпраўка, пастрашыў, каб не рвалася да яго без пары...» Хай ж ба лепей спала Шурачка. Яна і ўдзень мяркуе, каб ад усіх адлучыцца, шукае тыя сцежкі, па якіх людзі не ходзяць, бо ўсё яна з ім побач, з Пётрам. Ідзе па вёсцы іхняя жалобная пара, плыве ззаду Шураччын цёмны вэлюм па агародзе, па садзе, каля ракі — уваччу чорна. Клічуць яе да сябе дзеці, унукі — не чуе... «Мама, хто там такі?» — прачнецца ейная дачка Тамара. Шурачка не адзавецца, будзе моўчкі ўглядацца ў вокны. Тамара пераcкоціцца качулкай на другі бок, малады сон зноў таропка пацалуе яе ў вочы і яна раптоўна засне, зняможаная за дзень, вытрапаная. А як жа бегла яна ад ракі (ніколі не забудзецца Ганне), убачыўшы, што гусі лятуць! Высока, бы дзеўчынка, ускідваючы каленькі, рукі да грудзей, ускочыла на ганак. А праз якую хвіліну ўжо ўсе выбеглі з хаты, пасталі роўненька, цесна, і сама Шурачка, і Тамарын муж Стась, і другая дачка Зіна з малымі дзецьмі — якраз жа была нядзеля, прыехалі з горада. Усе, падняўшы галовы, глядзелі ў неба. На высокім ганку, бы на хорах у царкве. Дабаўляліся да вясновай песні і іхнія маўклівыя малітоўныя галасы... Устане Тамара ранкам, плісне ў твар вады і з ручніком на руках, няўцямна, не заўважаючы той граніцы, дзе хата, дзе двор, сад, пойдзе па двары, пастаіць каля аднаго куста агрэсту, каля другога, каля дрэва, бы гэта ёй стол ці буфет, ці люстэрак. Ускіне рукі, шырока завядзе ручніком, выціраючыся, бы ў нейкім незнаёмым дагэтуль ранішнім танцы — аж вачам палягчэе на яе гледзячы...

Хадзілі па панадворку, па садку, Ванда блізка ў цемры падыходзіла да кладовачкі, да дрывотні, рукой дакраналася да ўсяго, мацала: «І гэта тваё?! І гэта?! Ну не дача, а фальварак! Маленькі фальварак!» — ускрыквала. А дом не адзываўся. Дзверы адчыняліся з рыпам, бы ў нежылым, бы ў свірне. Ганна лапае па сцяне, шукае выключацель. Яна не любіла цёмных пакояў, заўсёды перад трэба ёй адважыцца, уваходзіла ў цёмнае, як у мутную ваду, не ведаючы, глыбока ці не... Не падае дом голасу. Яна добра памятала, як пазнала яго, як пачула... Яшчэ толькі-толькі былі насунуўшы страху з шыфера, скінуўшы старую дранку. І сцены яшчэ голыя, шалёўкі было не купіць, з ператрэсенага бярвення тырчэў сівы мох, аддавала нежылой балацінай. Не пакоі, а загарадкі. Ганна акопвала побач кусты агрэсту. Пайшоў дождж. Раптам — ціхі такі галасок. Бачыць — капае са страхі. І сама стала пад брыль, прыхінулася да сцяны, адчуўшы цёплы, сухі прытулак, слухаючы жывую гаворку да яе.

Хадзілі па пакоях не распранаючыся. Ванда то тут садзілася, то там — з лавы на табурэт, з табурэта на канапу, высока, прыгожа закідвала нага за нагу. Нарэшце спыніліся ў пакойчыку наверсе пад самай страхой, на гарышчы, як называла сама гаспадыня. Незнаёмцам стаў пад вокнамі, абсыпаўшыся маладымі кучарамі дуб — адмяніўся за нядзелю, як бачыліся. Запахла дымам ад цыгарэт. Ганна заспяшалася, усхвалявана стала расказваць, як будавалася, як тут жыве сярод вёскі. Ванда раз-пораз рэзка пады-

Пачаўся найбольш плённы перыяд падрыхтоўкі спецыялістаў, якія занялі высокае месца ў свеце мастацтва. Можна назваць многіх выпускнікоў вучылішча, чые імёны ведаюць аматары музыкі не толькі Беларусі. Гэта вакалісты Н. Казлова, А. Рудкоўскі, С. Гулевіч і Я. Пятроў; прафесары кансерваторыі цымбаліст Я. Гладкоў і харавік М. Дрынеўскі; музычныя дзеячы М. Сірата, В. Курылін, галоўны дырыжор Гомельскага цырка Ю. Васілеўскі; кампазітары В. Помазаў, У. Буднік, У. Прохараў, У. Дамарацкі, Д. Яўтуховіч...

Багатая і разнастайная культурна-асветніцкая работа вучылішча ў нашы дні. Сёння маем сімфанічны аркестр, рускіх народных інструментаў, аркестр цымбалістаў, баянны аркестр, ансамблі скрыпачоў, віяланчэлістаў, цымбалістаў, балалаечнікаў... Апошнім часам, з адкрыццём аддзялення «музычнае мастацтва эстрады» з'явілася магчымасць, акрамя духавога аркестра, стварыць і адметны эстрадны аркестр. Не раз перамагалі на розных конкурсах сімфанічны аркестр з дырыжорам В. Краўцовым, духавы калектыў пад кіраўніцтвам В. Кавалёва, цымбальны, якім кіраваў М. Гапееў, баянны аркестр пад кіраўніцтвам старэйшага выкладчыка П. Усава. З поспехам у розных конкурсах выступалі педагогі І. Працэнка, В. Кавалёў, Т. Лясун. Выкладчыкамі рыхтаваліся цыклавыя і тэматычныя праграмы да юбілеяў, памятных дат і святаў.

Цяпер вучылішча штогод рыхтуе 85—90 спецыялістаў з сярэдняй музычнай адукацыяй.

Нашы педагогі вялікую ўвагу аддаюць і практычнай дапамозе дзіцячым музычным школам, калектывам мастацкай самадзейнасці, канцэртнай дзейнасці. Прынамсі, плённа і ўжо больш як 20 гадоў працуе квартэт баяністаў вучылішча (кіраўнік Б. Давыдаў), які неаднаразова прадстаўляў свае праграмы ў краінах Заходняй Еўропы. 20 гадоў існуе вакальна-драматычная студыя вучылішча, якой кіруе артыст абласнога тэатра М. Пало. Студыя — не толькі пляцоўка для падрыхтоўкі да работы на канцэртнай сцэне нашых сённяшніх навучэнцаў вакальнага аддзялення, а і творчы асяродак, для якога пішуць новыя творы выкладчыкі вучылішча. Адной з апошніх пастановак была аднаактовая опера-вадэвіль «Бяда ад пяшчотнага сэрца», музыку якой напісаў выкладчык В. Радзькін.

Творчыя калектывы з'яўляюцца добрай школай прафесійнай падрыхтоўкі. Прафесійнае стаўленне не толькі да педагагічнай, а і да канцэртнай дзейнасці выкладчыкаў дае плён.

Калектыў наш падтрымлівае творчыя сувязі з Беларускай дзяржаўнай кансерваторыяй, музвучылішчамі Бранска, Чарнігава і Мінска.

За 70 гадоў існавання вучылішча падрыхтавала 60 выпускаў, больш за чатыры тысячы спецыялістаў раз'ехаліся па вобласці, рэспубліцы і далёка за яе межы. Выпускнікі Гомельскага музычнага з'яўляюцца асновай педагагічных калектываў 74 дзяржаўных і 20 калгасных музычных школ вобласці.

Гомельскае музычнае вучылішча імя Н. Ф. Сакалоўскага мае глыбокія і трывалыя традыцыі ва ўсіх відах творчай дзейнасці. І галоўная задача нашага калектыву на сённяшні дзень — захаванне творчага патэнцыялу, духу несупакоенасці і пошуку.

**Эдуард КІРЫЛЕНКА,**
**дырэктар вучылішча імя Н. Ф. Сакалоўскага.**

г. Гомель.

**раз не хапае сёння... Рэдакцыя П. Гусева, у якой «Карсар» ідзе зараз у Пецярбурзе, у Кіраўскім і Малым тэатрах і ў якой спектакль пастаўлены на беларускай сцэне, ашчадна захавала ўсе найбольш каштоўныя і знакамітыя фрагменты харэаграфіі М. Пеціпа.**

С. Дарэчы, нашы выданні (у тым ліку і «ЛіМ»), інфармуючы аб прэм'еры, напісалі, што паставіў «Карсара» П. Гусеў, не ўдакладніўшы, што харэограф некалькі гадоў як памёр, і яго пастаноўку ўзнавілі на мінскай сцэне пецярбуржцы Н. Янаніс і Г. Мельнікава...

**Д. Згодны. Дадам, што пластычная чысціня, празрыстая яснасць ліній і прапорцый, нагогул культура танца, якая ўласціва і выкананню ансамблевых сцэн, і сольных, вядучых партый, сведчанне таго, што праца з пецярбургскімі майстрамі над «Карсарам» сталася выдатнай школай для нашай трупы.**

С. Так!

**Д. Да таго ж, у спектаклі столькі цікавых і яркіх выканаўчых работ! Пачнём з салістаў. Прыкладна год назад Кацярына Фурман станцавала на прэм'еры «Спячай красуні» фею Бэзу і адразу звярнула на сябе агульную ўвагу. Да гэтага часу яе амаль ніхто не ведаў. Сёння 23-гадовая салістка прэтэндуе на месца адной з вядучых балерын трупы. Яна ўжо танцуе шэраг вядучых партый. Сачыць за яе танцам — сапраўдная асалода!**

С. Яно так, але, прынамсі, мне ў танцы К. Фурман не хапае абаяльнай шчырасці, душэўнай цеплыні, тых якасцей, якія ўласцівыя Медоры — І. Душкевіч.

**Д. Ведаеце, гэта зусім розныя артысткі, і сваю ролю яны вырашаюць па-рознаму. Там, дзе ў І. Душкевіч пануе затоеныя адчай і агіда да купцоў, Ланкедэма і Сеід-пашы, у К. Фурман — халодная пагарда. Калі ў любоўных сцэнах Медора — Душкевіч шчыра адгукаецца на сардэчнае парыванне Конрада, дык у гераіні Фурман больш велічнасці, усведамлення ўласнай прывабнасці і прыгажосці. Такія ж розныя ў спектаклі і выканаўцы мужчынскіх партый. Мужна - стрыманы Конрад у трактоўцы У. Камкова і больш лірычны, рамантычны ў абмалёўцы У. Іванова. Непадобныя ў галоўных героях і сябры. Ажыўленая, грацыёзна - какетлівая Гюльнара Ж. Лебедзевай (дарэчы, раю вам звярнуць увагу на гэтую артыстку, у яе — сур'ёзная будучыня, і наперадзе, безумоўна, вядучыя партыі). Гюльнара ў Т. Беранавай больш сталая, з жаночымі хітрыкамі. З сапраўднай асалодай правадзіць ролю каварнага гандляра рабынямі «нягодніка» Ланкедэма А. Фурман. Рамантычнасцю трактоўкі вобраза карсара Алі захапляе В. Захараў.**

С. Калега, вы гаворыце з такім захапленнем, што я пачынаю ўспрымаць увесь спектакль крыху інакш...

**Д. А сцэнаграфія, пра якую мы яшчэ не сказалі ні слова!! Тэймураз Мурванідзе лічыцца сёння адным з лепшых тэатральных мастакоў. Успомніце: колеравая экспрэсія сцэнаграфіі ў пралогу і эпілогу, стракатая маляўнічасць кірмашу, дзе «нягоднікі» — купцы набываюць жывы тавар, непаўторна «ўсходні» каларыт фарбаў у сцэне гарэма, фантастычнае ззянне святла і колеру ў «Ажыўленым садзе»... А надзвычай прыгожыя касцюмы, зробленыя па эскізах мастачак Л. Ганчаровай і Э. Грыгарук! Яны элегантныя, вытанчаныя і разам з тым сцэнічна кідкія. Адкрыю маленькі сакрэт: адзенне купцоў у III і V карцінах, якое ўражвае дакладнасцю каларыту, багаццем фактуры, выткана майстрыхамі вытворчага камбіната ўручную на ткацкіх станках...**

С. Калега, вашы словы пераканалі мяне, што мне трэба паглядзець «Карсар» яшчэ раз. Я не збіраюся зусім адмаўляцца ад зыходных момантаў у сваіх высновах, але, спадзяюся, што тады нашы пазіцыі і ацэнкі будуць непараўнальна больш блізкімі.

**Д. Значыць, мы спрачаліся не дарма...**

**Дыялог Добразычліўца і Скептыка запісала Таццяна МУШЫНСКАЯ.**

ТЭАТР

# Ці далёка да Мангейма?

**Прэм'еру шылераўскага «Вільгельма Тэля» Маладзёжны тэатр Беларусі нарэшце сыграў ва ўласным, хоць і недабудаваным яшчэ, памяшканні па вуліцы Даўмана. Адбылося гэта пад час міжнароднага фестывалю «Студыйныя каляды-91», тэатральная грамадскасць была, што называецца, на ўзводзе, а таму памкнулася «абжыць» невядомы тэатральны будынак. Сярод прэм'ернай публікі было шмат замежных гасцей. Карэспандэнт «ЛіМа» пагутарыў з адным з іх — з генеральным дырэктарам аб'яднання тэатраў горада Мангейма (Нямеччына), знаўцам творчасці Фрыдрыха Шылера і арганізатарам вядомых ва ўсім свеце Шылераўскіх фестываляў панам Арнольдам ПЕТЭРСАНАМ.**



«Вільгельм Тэль» Ф. ШЫЛЕРА. Сцэна са спектакля.

— Ці спадабаўся вам спектакль?

— Так, я ў захапленні! Даўно не бачыў у спектаклях паводле Шылера столькі энергіі. Гэта малады спектакль для маладых.

— Як вы лічыце, калі б сам Шылер убачыў такую трактоўку сваёй п'есы, ён бы не пакрыўдзіўся?

— Вядома, не. Ён быў бунтаўшчыком, за што яго і прагналі калісьці мае папярэднікі з тэатра, якім зараз кірую я. Да таго ж, ва ўсіх п'есах Шылера ёсць тонкае адчуванне палітычнай сітуацыі. Прысутнічае яно і ў беларускім спектаклі, — выяўляецца праз іронію, якой прасякнута пастаноўка Віталя Катавіцкага.

— Дарэчы, як бы вы вызначылі жанр спектакля?

— Жанр?.. Комікс! Так, вельмі добры комікс для дарослых.

— Як вам падалося новае памяшканне тэатра?

— Я не бачыў старога, не магу параўноўваць... Скажу толькі, што будынак досыць цікавы і арыгінальны. Нават у тым, што ён недабудаваны, ёсць свае вартасці. Дарэчы, Пітэр Брук свой парыжскі тэатр не дабудоўвае знарок. Між іншым, сённяшні спектакль па форме нагадвае апошнія спектаклі Брука, напрыклад, «Буру» Шэкспіра. Падкрэсленая тэатральнасць, умоўнасць... Мяркую, гэта правільны шлях.

— І апошняе. Вам не захацелася запрасіць Маладзёжны тэатр Беларусі на Шылераўскі фестываль у Мангейм?

— Так. Я ўжо гутарыў пра гэта з рэжысёрам спектакля, а таксама з намеснікам міністра культуры вашай краіны. Калі не атрымаецца сёлета, дык на наступны год — абавязкова запрашу.

# Паклёп у вольным эфіры

## Замест ліста да беларускай рэдакцыі радыёстанцыі «Свабода»

18 снежня ўжо мінулага года беларуская рэдакцыя радыё «Свабода» перадала «разважанні аб выдавецкай палітыцы на Беларусі», прадыктаваныя па тэлефоне з Менска Віктарам Мартыненкам. На жаль, аналізу «выдавецкай палітыкі» ў пададзеным матэрыяле амаль няма, затое ёсць спекуляцыя на моўнай тэме, нападкі на аўтараў, што пішуць па-руску.

Аб'ектам для хлусні і зняваг карэспандэнт абраў супрацоўніка часопіса «Спадчына», кандыдата філасофскіх навук Ларысу Чарнышову. Яна выдала ў 1990 г. пераклад на рускую мову кнігі вядомага амерыканскага філосафа і псіхолага Эрыха Фрома «Мастацтва любові». Ёй таксама належаць пераклады з лаціны на рускую філасофскіх твораў дзеячаў духоўнай культуры Вялікага княства Літоўскага, што склалі выдадзены «Навукай і тэхнікай» зборнік «Памятники философской мысли Белоруссии XII — первой половины XVIII с.» На сам факт выдання гэтых прац па-руску карэспандэнт «Свабоды» і скіроўвае свой «выкрывальны» пафас. Не маючы ні гістарычных, ні філасофскіх ведаў, каб прааналізаваць вартасці гэтых кніг, ён адзначае іх галоўны недахоп—рускамоўнасць, а ў дадатак упікае Л. Чарнышову, што «яна імкнецца друкавацца там, дзе больш плацяць», дэманструе «лоўкасць рук».

Дык вось, пераклад кнігі Фрома выдадзены не ў «кааператыве», а ў творча-вытворчым цэнтры «Паліфакт» Беларускага фонду культуры. Гэта той самы «Паліфакт», коштам якога выдаецца беларускамоўны часопіс «Спадчына». Такім чынам, прыбытак ад выдання рускамоўнага перакладу Фрома працуе на беларускамоўную культуру (дарэчы, неўзабаве «Паліфакт» выдасць і кнігу лідэра БНФ З. Пазняка). Гэта па-першае. Па-другое, ганарар ад выдання Л. Чарнышова атрымала па дзяржаўных расцэнках, аднолькавых для рускамоўных і беларускамоўных выданняў. Карэспандэнту «Свабоды» трэба было б зрабіць элементарную журналісцкую працу — сабраць інфармацыю. І калі б ён гэта зрабіў, то мог бы лёгка даведацца, што ніводнае выдавецтва не ўзялося выдаць згаданую кнігу Фрома, што яго творы былі ў Савецкай дзяржаве забароненыя, бо ў іх аналізавалася і выкрывалася сутнасць таталітарызму, у тым ліку і савецкага. Кніга была перакладзена на рускую мову Л. Чарнышовай 15 год назад, і ўсе выдавецтвы, куды яна звярталася, адхілялі прапанову. Часопісы «Беларусь» і «Крыніца» адмовіліся і ад беларускамоўнага перакладу. Толькі ў «ЛіМе» быў надрукаваны ўрывак (штотыднёвік не мае магчымасці змясціць кнігу цалкам). І вось зараз, калі яна з'явілася, радыё «Свабода» дазваляе свайму карэспандэнту ўводзіць слухачоў у зман і няславіць аўтара перакладу. На юрыдычнай мове гэта называецца дыфамацыяй і падлягае юрыдычнай адказнасці.

А якую мэту ставіў перад сабой карэспандэнт «Свабоды», выхапіўшы прозвішча Л. Чарнышовай з кола аўтараў, што падрыхтавалі зборнік «Памятники философской мысли Белоруссии...»? Калі б ён сапраўды хацеў зрабіць аналіз выдавецкай палітыкі, то лёгка б атрымаў інфармацыю, што гэтая кніга складзена з планавых прац супрацоўнікаў акадэмічнага Інстытута філасофіі і права, якія выконваліся на працягу 1979—1985 гг. Не цяжка падлічыць, колькі гадоў марнавалася яна ў выдавецтве «Навука і тэхніка». Па якіх прычынах? Вось дзе прастора для разважанняў пра выдавецкую палітыку. Але для гэтага патрэбны дасведчанасць і сапраўдная занепакоенасць станам выдавецкай дзейнасці на Беларусі. А што датычыцца яго заглядання ў чужую кішэню, то паведамляем, што выданне было безганарарнае.

Спадзяёмся, што беларуская рэдакцыя радыёстанцыі «Свабода» данясе гэтую інфармацыю да сваіх слухачоў.

**В. ВЯЧОРКА, В. РАКІЦКІ, К. ТАРАСАЎ,**
**супрацоўнікі часопіса «Спадчына».**

# «У НАС СЭРЦЫ ЧЫСТЫЯ...»

## Новае пра Змітрака Астапенку

У гісторыі беларускай літаратуры няма, бадай, больш загадкавай постаці, чым Змітрок Астапенка. Праўда, таямнічай не ў тым сэнсе, што даследчыкамі не высветлены шмат якія аспекты яго творчасці. Яна на сённяшні дзень як быццам няблага прачытана і асэнсавана. І нават не таму, што так і не зразумела, як гэта ўдалося яму, аднаму з мільёнаў ахвяр сталінізму, не толькі вырвацца з лагера, але і апынуцца ў Маскве, а пасля стаць разведчыкам.

Легенда бярэ свой пачатак з кастрычніка 1944 года, калі, згодна афіцыйным сведчанням, З. Астапенка «прапаў без вестак» у Татрах, выконваючы з групай спецыяльнае баявое заданне. Чалавек загінуў, а тыя, хто яго добра ведаў, у розны час сцвярджалі, што ў пасляваенны час бачылі... жывым. Аркадзь Куляшоў, напрыклад, не сумняваўся: знаёмы твар неяк прамільгнуў у вірлівым маскоўскім натоўпе. Памыліцца, безумоўна, можна, але ж А. Куляшоў і З. Астапенка былі найлепшымі сябрамі...

Нарэшце, яшчэ адно пацвярджэнне, якое вельмі ж працуе на гэтую легенду. Прыйшло яно, як кажуць, адтуль, «з-за бугра». Калі чытач памятае, не так даўно часопіс «Маладосць» (1990, № 9) апублікаваў гутарку Барыса Сачанкі з адным з самых яркіх прадстаўнікоў беларускага замежжа Масеем Сяднёвым. Расказваючы пра сваё жыццё ў Берліне, а гэта было таксама ў 1944 годзе, толькі недзе ў канцы яго, спадар Сяднёў зазначыў: «Там, да слова, мы атрымалі ліст ад Змітрака Астапенкі. Ён прасіў дапамогі». Б. Сачанка, як і трэба было чакаць, здзівіўся: «Змітрок Астапенка, наколькі я ведаю, загінуў у 1944 годзе ў Славакіі...» Масей Сяднёў, аднак, настойваў на сваім: «Я расказваю тое, што было, чаму быў сведкам. Ліст гэты пераслалі ў «Раніцу» (газета, што выдавалася ў Берліне. — **А. М.**) з рускай газеты, што таксама выходзіла ў Берліне. Яго чытаў мне Уладзімір Дудзіцкі. Змітрака я ведаў, сустракаўся на этапах, у турмах. Ад Змітрака ўсяго можна было чакаць, чалавек ён быў неардынарны, адукаваны, таленавіты, адчайны. Ён неаднаразова ўцякаў. Усё магло здарыцца, калі ён апынуўся ў Славакіі, мог ён там і не загінуць...»

Што пасля гэтага скажаш? Самы час хіба паставіць кропку, як гэта цяпер часта робіцца ў розных выданнях, калі сенсацыйныя паведамленні публікуюцца пад рубрыкай з гэткай падкавыркай: «Хочаш вер — хочаш правер». Маўляў, што ведалі, тое і сказалі. І я б не ўзяўся за гэты матэрыял (пра З. Астапенку даводзілася пісаць ужо неаднойчы), калі б не тэлефонны званок...

Тэлефанаваў Сяргей Грахоўскі. І не з якой-небудзь іншай нагоды, а менавіта ў сувязі з лёсам Змітрака Астапенкі:

— Падышлі б, Алесь, да яго сястры... Я ж, як ні сорамна, неяк забыў, што яна жывая, хоць, памятаю, у нарысе С. Шушкевіча «Лёс паэта», змешчаным у яго кнізе «Вяртанне ў маладосць» (Мінск, «Беларусь», 1968), чытаў пра Ніну Емяльянаўну, што яна жыве ў Мінску. Ды і з самім Станіславам Пятровічам неаднойчы заходзіла гаворка і пра З. Астапенку, і пра блізкіх яму людзей.

Сяргей жа Іванавіч нагадваў:

— Зайдзіце, Алесь, да Ніны Емяльянаўны, абавязкова зайдзіце. Яна атрымала паведамленне з КДБ адносна гібелі Змітрака.

...Ніна Емяльянаўна прыносіць вялікі стос выразак — успаміны і артыкулы пра З. Астапенку, копіі яго пісем. Арыгіналы яна перадала ў Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Беларусі і Дзяржаўны літаратурны музей. У гэтым стосе і паведамленне, пра якое нагадаў С. Грахоўскі. Малодшая сястра З. Астапенкі Алена Емяльянаўна (усяго ў дружнай сям'і настаўнікаў Астапенкаў было чацвёра дзяцей; брат Яўген, які ваяваў у Вялікую Айчынную вайну, памёр два гады назад) на працягу доўгіх гадоў слала лісты ў розныя інстанцыі, спрабуючы даведацца хоць нешта канкрэтнае пра лёс Змітрака. Аднак на яе запыты ці ўвогуле не адказвалі, ці прысылалі нязменнае: «прапаў без вестак у 1944 годзе», «загінуў у 1944 годзе».

Нічога не праяснялі і лісты на адрас КДБ Савецкага Саюза. Сказаць папраўдзе, і не дзіўна. Гэтая магутная сакрэтная арганізацыя ўмела трымаць «сакрэты». Аднак часы мяняюцца. Шкада толькі, што адказ прыйшоў тады, калі Алены Емяльянаўны не было ўжо ў жывых (памерла яна ў Маскве 2 лютага 1991 года).

— Нейкім чынам, — гаворыць Ніна Емяльянаўна, — знайшлі мой адрас і пераслалі гэты адказ у Мінск, — падае мне паперку.

На афіцыйным бланку напісана:

**«Камітэт Дзяржўнай бяспекі. СССР. Цэнтральны архіў**
**19.6.91 г. № 10-а 3845**

**Паважаная Алена Емяльянаўна!**
**Па сутнасці Вашай заявы паведамляем наступнае. Астапенка (пакольні адказ, зразумела, на рускай мове, называецца і яшчэ адзін варыянт прозвішча: «Остапенко». — А. М.) Дзмітрый Емяльянавіч... 28 верасня 1944 года ў складзе падраздзялення разведчыкаў з горада Масквы быў перакінуты на тэрыторыю Чэхаславакіі. 7 кастрычніка 1944 года асобная група з сямі чалавек, у лік якіх уваходзіў Астапенка Д. Е., была перапраўлена з разведвальным заданнем у горад Кежмаг, Чэхаславакія... Якіх-небудзь звестак аб дзеяннях указанай групы і лёсе разведчыкаў, у тым ліку і Астапенкі З. Е. у далейшым не паступала.**

**Дадаткова накіроўваем Вам захаваны ў архівах фотаздымак Астапенкі З. Е., які адносіцца к апошняму знаходжанню на тэрыторыі СССР.**

**Намеснік начальніка архіва**
**А. Т. Жадобін».**

Прызнацца, хацелася прачытаць у адказе нешта больш пэўнае, канкрэтнае. Скажам, даведацца, калі дакладна загінуў З. Астапенка і як загінуў. Аднак, перачытаўшы раз і другі гэты адказ, разумееш, што апошняя кропка адносна лёсу паэта ўсё ж пастаўлена. Чаму? Калі нават у КДБ няма далейшых «звестак аб дзеяннях указанай групы і лёсе разведчыкаў», значыць яна загінула ўся. Не мог жа нейкім загадкавым чынам застацца ў жывых адзін З. Астапенка?! А калі б і застаўся, дык хто б цяпер пра гэта маўчаў?

КДБ сваё слова сказала. Іншая справа, што па-ранейшаму невядомы абставіны гібелі групы, у якую ўваходзіў З. Астапенка. Ёсць сведчанні, што ўсіх сем чалавек разарвалі нямецкія аўчаркі. Калі не ўсіх, дык, прынамсі, тых, хто не загінуў ад фашысцкіх куль. А ўсё з-за таго, што радыстка, якая ўваходзіла ў групу, аказалася здрадніцай. Пра гэта гаворыць і Ніна Емяльянаўна. На жаль, і яна не можа пэўна сказаць, ад каго ўсё пачула. Між іншым, у свой час не мог прыпомніць, хто яму гэта казаў, і С. Шушкевіч, хоць Станіслаў Пятровіч неаднойчы называў мне такую версію.

Загадка, як бачым, раскрылася, хоць і не да канца. Раскрыцца паўней магла б тады, калі б падобны адказ з архіва КДБ прыйшоў некалькі гадоў назад. Тая ж Алена Емяльянаўна (па мужу Жукава) проста-такі рвалася паехаць у Чэхаславакію і распытаць мясцовых жыхароў пра лёс савецкіх разведчыкаў, сярод якіх быў і З. Астапенка. Ведала б Алена Емяльянаўна, што трагедыя адбылася паблізу горада (а мо і ў самім горадзе) Кежмаг! Тады б яна рашылася б на далёкую паездку, а цяпер ехаць Ніне Емяльянаўне — позна, здароўя няма...

Распытваю яе пра брата, жадаючы даведацца тое, што ў згаданы нарыс С. Шушкевіча не ўвайшло. Дакладней, не магло ўвайсці.

Першы раз З. Астапенку арыштавалі ў 1933 годзе. Як прыгадвае Ніна Емяльянаўна, у час адной з сустрэч з ім (тады яшчэ дазваляліся спатканні і перадачы) брат прызнаўся, што яму прапаноўвалі супрацоўнічаць з органамі НКУС. Па сутнасці, хацелі, каб З. Астапенка стаў «сексотам». На такую прапанову паэт адказаў адмоўна. За гэта і паплаціўся. Атрымаў тры (а не два, як у кнізе С. Шушкевіча) гады і апынуўся ў Марыінску. Прабыў там паўтара года і быў вызвалены. Зноў загадка: ці за сумленную працу, за тое, што «перавыхаваўся». Ці па нейкай іншай прычыне?

Пасля вызвалення З. Астапенка паехаў у горад Нікалаеў (не ў Навасарасійск, як у С. Шушкевіча), уладкаваўся выкладчыкам нямецкай мовы. Цудоўна ён ведаў таксама чэшскую, польскую мовы. Пра тое, каб пераехаць у Мінск, і гаворкі не магло быць — забаранілі! Праўда, у 1936 годзе неяк дамогся, каб наведаць сталіцу рэспублікі на дзень-другі. І яшчэ адзін прыезд быў, але ўжо не па ўласнай волі. З. Астапенку паўторна арыштавалі. На гэты раз праходзіў па судзе з многімі беларускімі пісьменнікамі і ў кастрычніку 1937 года атрымаў восем гадоў. Трапіў у Сібір з гэткімі ж бедалагамі, як і сам, беларускімі літаратарамі. І не скарыўся...

Як успамінаў С. Шушкевіч, неяк ноччу «у перапоўненай халоднай «перасылцы» лагернага пункта» З. Астапенка шаптаў яму: «Пакляніся, што нікому ні слова... Вось што... Мы ж савецкія людзі, у нас сэрцы чыстыя. Пагоняць на этап, выберам зручны момант і ўцячом. Уцячом або загінем... А калі застанемся жывымі, уладкуемся на работу ў які-небудзь пошукавы геалагічны атрад і зробім там такое, што стане вядомым на ўвесь Савецкі Саюз. Вось мы тады і адкрыем сябе... Згодзен?»

Згадзіўся С. Шушкевіч. Гатовы былі далучыцца да іх і іншыя таварышы. І хто ведае, што было б далей, калі б перад самым этапам З. Астапенка не захварэў. Ён застаўся на перасыльным пункце, а сябры рушылі ў нялёгкую дарогу, непакоіліся: «Відаць, загінуў хлопец. Наўрад ці хопіць у яго сіл падняцца».

З. Астапенка ж, ачуняўшы, ад уцёкаў не адмовіўся. Цяпер ужо ні з кім не раіўся. Сяброў побач не было. Першай здагадалася, што нешта адбылося, Ніна Емяльянаўна. Яна, як і Алена, рэгулярна перапісвалася з братам, па магчымасці пасылала яму харчы, сякія-такія рэчы. І вось аднойчы пасылка вярнулася назад з кароткай прыпіскай: «Адрасат выбыў». Захваляваліся родныя: што здарылася? А мо ўсё-такі вызвалілі?



Група беларускіх пісьменнікаў (злева направа): Аркадзь Мардвілка, Змітрок Астапенка, Віктар Казлоўскі, Юлій Таўбін, Валерый Маракоў, Станіслаў Шушкевіч. 1928 г.

Аказалася, што З. Астапенка ўсё ж уцёк з лагера. І ўдала — адразу не змаглі злавіць. А пасля... Мясцовасць ведаў слаба, таму, паблукаўшы па тайзе і балотах і адчуваючы, што наўрад ці ўдасца знайсці нейкае пэўнае прыстанішча, вырашыў вярнуцца назад. З павіннай. Па тым часе з ім абышліся, можна сказаць, «па-чалавечы»: да ранейшага тэрміну дабавілі яшчэ два гады.

Слабавольны чалавек пасля гэтага хутчэй за ўсё змірыўся б і ціха нёс бы далей свой крыж. Ды не такім быў З. Астапенка. Працягваў пісаць у розныя інстанцыі. Сцвярджаў адно: «Паверце, я сумленны... Калі што—дазвольце змыць ганьбу». Карыстаўся любым спосабам, каб перадаць пісьмо «на волю».

Адзін з такіх лістоў пазначаны 1 лютага 1941 года З. Астапенка пісаў сястры Алене, але адначасова звяртаўся да абедзвюх сясцёр. Ліст раней нідзе не друкаваўся, таму ёсць неабходнасць прывесці з яго хоць асобныя выдрымкі. Пра тое, чым жыў паэт у выгнанні, што было ў яго на душы.

Напачатку З. Астапенка дзякуе за пасылку, папярэджвае, што пагаварыць па тэлефоне з ім нельга: «дорага ды і не дазволяць». Спадзяецца, што сёстры будуць «у будучым жыцці» шчаслівыя. А пра сябе так: «Што тычыцца мяне, дык тут аб шчасці і гаворкі быць не можа. У мяне жыццё ўжо сапсавана назаўсёды. Ты, Лена, дарэмна пішаш, што не можа быць, каб чалавек усё жыццё быў «няшчасным». Якраз у мяне так і выходзіць, бо маладосць у мяне разбіта і праходзіць, здароўе забрана, жыццё без маладосці, здароўя не мае для мяне ці амаль не мае каштоўнасці і Авадзень, пра якога ты, Лена, пішаш, памёр і жыў глыбока «няшчасным» чалавекам. Але досыць пра гэта, а то выходзіць, што я зноў скарджуся на жыццё».

Скардзіцца пра ўласныя нягоды ён не ўмеў і не хацеў. Хіба што ў самыя цяжкія хвіліны часам заўважалася гэта. У асноўным жа радаваўся за іншых — шчыра, адкрыта... У тым жа лісце, напрыклад, звяртаўся непасрэдна да Ніны: «Проста не верыцца, што ў цябе з Барысам сын, што яму ужо чатыры гады. Якое шчасце! Ты за гэтыя гады атрымала добрую адукацыю і сына, а я за гэты час страціў здароўе, маладосць і няма ў мяне ні сына, ні надзеі на шчасце. Які жахлівы кантраст?! Але я зноў пачынаю «скардзіцца». Досыць».

Між тым пачалася вайна. Пра гэты перыяд у біяграфіі З. Астапенкі даведнік «Пісьменнікі Савецкай Беларусі» (1981) лаканічны: «У час Вялікай Айчыннай вайны служыў у Савецкай Арміі, быў на фронце». Але ж, каб трапіць на фронт, напачатку неабходна было дабіцца, каб табе паверылі, што не вінаваты і вызвалілі. Якім чынам? Адно вядома: даведаўшыся, што Германія напала на Савецкі Саюз, З. Астапенка шле ліст за лістом у Маскву. Звяртаецца ў Вярхоўны Савет, у Народны камісарыят абароны, непасрэдна да Сталіна. Піша, што добра ведае некалькі замежных моў, можа прынесці карысць Радзіме. І аднойчы, калі паэт працаваў на лесапавале, за ім прыехала машына з нейкім начальствам і забрала яго з сабой. Больш таварышы па зняволенні З. Астапенкі не бачылі.

Паверылі ў Маскве ў шчырасць споведзі аднаго з «ворагаў народа»? Існуе і яшчэ адна версія, у якую таксама ўрэшце можна паверыць. З. Астапенка быў не толькі выдатным паэтам, але і таленавітым мастаком, з поспехам займаўся разьбой па дрэве. Ходзіць пагалоска (хто першым пусціў яе, невядома), што ў лагеры ён выразаў партрэт Сталіна на фоне Крамля, і як быццам той барэльеф начальства адправіла ў Маскву, і трапіў ён да самога Сталіна.

Як бы там ні было, а паверылі З. Астапенку, на некалькі гадоў далі яму магчымасць адчуць сябе зноў вольным чалавекам, патрэбным Радзіме.

Пра жыццё яго ў Маскве пасля вызвалення вядома няшмат. З. Астапенка пазбягаў сустрэч са знаёмымі. Рукапіс сваёй паэмы «Эдэм» паказаў Максіму Танку, а не якому іншаму нашаму пісьменніку, якіх ведаў раней. М. Танка ён не ведаў асабіста, і сам назваўся не ўласным імем, а Змітраком Нямірам. Чаму? З-за сціпласці? Была прычына больш істотная. У Маскве З. Астапенка жыў як бы двайным жыццём. Для ўсіх блізкіх і знаёмых ён па-ранейшаму заставаўся тым, кім быў на самай справе. А для тых, хто рыхтаваў яго для разведвальна-дыверсійнай работы?

А што З. Астапенка рыхтаваўся да гэткае работы, сведчыць былая жонка паэта Антаніна Цімафееўна, якая і цяпер жыве ў Маскве. Са Змітраком яны правялі разам менш года. Пасяліліся

**(Працяг на стар. 14).**

# «У нас сэрцы чыстыя...»

(Пачатак на стар. 13).

непадалёк ад Чырвонай Прэсні, здымалі невялічкі пакойчык у камуналцы. Як расказвала Антаніна Цімафееўна Ніне Емяльянаўне, Змітрок часам паводзіў сябе дзіўна. Вяртаецца яна з работы, а ён нечакана з'явіцца ў калідоры ў такім выглядзе, што і пазнаць немагчыма: з барадой, у чужым капелюшы. Ды і голас зменіць: «Грамадзяначка, пройдзем са мной». Толькі пасля таго, як адчуе, што яго не пазналі, зніме капялюш, адарве прыклееную бараду.

Ці вось яшчэ здагадка самой Ніны Емяльянаўны:

— Здаецца мне, што ў гады вайны Змітрака перакідвалі на Гомельшчыну, у адзін з партызанскіх атрадаў з нейкім заданнем... Пасля вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў заходзіла ў колішні будынак Саюза пісьменнікаў жанчына. Гаварыла, што яна цікавіцца лёсам пісьменніка Змітрака Астапенкі. Пыталася, дзе ён цяпер. Не магу па сённяшні дзень дараваць Кучару, ён жа з ёй гутарыў!.. Жанчына ж казала, што была са Змітраком у адным партызанскім атрадзе...

Пра тое, якое заданне меў З. Астапенка перад адлётам у Чэха-Славакію, відаць з яго апошніх лістоў. Так, 29 верасня 1944 года пісаў:

«Прывітанне бабулі, Любові Іванаўне.
Мае дарагія Тоня і Лена!
Тут зараз пахмурны дзень. На душы, нягледзячы на пахмурнае надвор'е, добра. Сумна толькі ад разлукі з вамі, але ж гэта павінна было быць, гэта быў мой абавязак.
Увечары мы вылятаем. Зараз каля 4—5 гадзін вечара. Пажадайце ў душы мне ўдачы і шчасця. Зрэшты, калі вы атрымаеце гэтае пісьмо, я буду ўжо далёка, на месцы... Гэтае пісьмо накіроўваю з лётчыкам».

Нарэшце — апошні ліст, напісаны 7 кастрычніка 1944 года:

«Мае дарагія, Танюсечка і Леначка! Вось я ўжо амаль на месцы. Праз дзве-тры гадзіны іду на захад... Вакол мяне крутыя горы. Схілы гор параслі елкамі і букам...
Колькі перажыванняў! Напрыклад, пералёт праз лінію фронта. Парашутны прыжок у горныя лясы і многае іншае.
Мае родныя! Напэўна, пасля гэтага пісьма я надоўга не буду мець магчымасці напісаць вам. Вы не трывожцеся гэтым...
...І ты, Тоня, як бы я доўга ні маўчаў, памятай, што я заўсёды з табою і жыву спадзяваннем сустрэцца з табою.
Ну, час канчаць. Зараз іду, пешшу, у горы, насустрач небяспецы, у агонь барацьбы. Я зусім не баюся небяспек, ненавіджу ворага, люблю вас, мае родныя. Чакайце!»

...На сцяне ў Ніны Емяльянаўны партрэт прыгожага маладога чалавека. Калі ўважлівей прыглядзішся, у яго вобліку ўгадваюцца асобныя рысы З. Астапенкі.

— Мой малодшы сын, — на твары ў гаспадыні з'яўляецца няпрошаная сляза. —Урачом працаваў, цудоўна ведаў англійскую, польскую мовы. Памёр на трыццаць восьмым годзе. Прыйшоў з работы і...

Другі сын — Віктар Лісоўскі — на выдатна скончыў школу, політэхнічны інстытут, працуе ў Акадэміі навук Беларусі. Ведае англійскую, польскую, чэшскую мовы, цікавіцца беларускай літаратурай. Дарэчы, адна з самых любімых газет — «ЛіМ». Пляменнікі вартыя свайго знакамітага дзядзькі...

Я свядома амаль не гаварыў пра творчасць З. Астапенкі, запыняючыся на перыпетыях яго жыццёвага лёсу. Неўзабаве ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіць найбольш поўны том яго паэзіі. У тым ліку і творы, раней неапублікаваныя. Так што чытачы самі будуць мець магчымасць ацаніць іх вартасць. Адно прашу: не спрабуйце «перакрэсліваць» нешта ў іх, ацэньваючы з пазіцыі сённяшняга дня. Зрабіць гэта так проста, бо нават і ў паэме «Эдэм» ёсць персанажы, так сказаць, традыцыйныя для свайго часу — камуніст Андрэй Саковіч, колішні кулак, дэзерцір Юхім Кашлаты. Не абражайце тым самым памяць З. Астапенкі.

Памятайце, што ў яго ёсць і такія радкі:

Колькі бачыў. Колькі жыў.
Колькі раз кідаўся ў схваткі!
Я б цяпер шчаслівы быў,
Каб пачаць усё спачатку.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

---



# БЕРЛІНСКІ ДЗЁННІК

Вячаслаў АДАМЧЫК

**Сёлета, з ласкі доктара Ульрыха Янэцкага, я быў запрошаны на Літаратурны калёквіум Берліна. Вынікам гэтага гасцявання з'явіўся «Берлінскі дзённік», старонкі якога прапаную чытачам «Літаратуры і мастацтва».**

**Аўтар.**

АЎТОРАК, 4 чэрвеня 1991 года. Берлін, Ам Сандвэрдар, 5. Літаратурны калёквіум Берліна.

9.30 мінскага часу (гадзіннік так і не пераводзіў—апярэджваючы час, жыць цікавей). Другі дзень, як я тут, у чырвонай трохпавярховай віле, зацянёнай магутнымі бурачковымі букамі і ясна-зялёнымі, таксама старавечнымі дубамі, на паддашку, у светла-жоўтым пакойчыку са скошанай сцяною. Уся мэбліроўка простая, калі не сказаць аскетычная: два металічныя з цыбатымі ножкамі столікі пад колер сценаў, халадзільнік, рабочае крэсла-круцёлка на сталёвай пяцікутнай назе, шырокая тахта-ложак з мяккаю і лёгкаю пярынаю, залацісты таршэр з жалабком-абажурам, чорная настольная лямпа з гэткім жа жалабком ці шуфлікам, жоўтая шафа, белая тумбачка з кнопачным тэлефонам, мяккае паласатае крэсла, вузкі, умацаваны ў нішу сцяны, стэлажык на восем паліц, абапал якога лаўка-палічка і газетны столік. Я бачу, нямецкія дызайнеры паварушылі галавою, каб разумна спалучыць даўніну і сучаснасць.

ват утульна-хутаранскімі дварамі і віламі на акраінах. А ў гэтых дварах, як на нашых скошаных лужках,—чародкі гвіжліва-цвірклівых шпакоў.

За гэтыя зялёныя ў дзяцелінцы, у кветках, у шпалерах парэчкаў, з дагледжанымі і зусім па-вясковаму ацяжэлымі ад пладоў яблынямі і грушамі, атуленыя цішынёю двары і дзялянкі, за раскошныя паркі са старасвечнымі, так ашчадна і дбайна захаванымі і выпеставанымі дрэвамі, з зялёнымі, роўненька падстрыжанымі лугавінкамі, з трапяткім бляскам ручаін, як дзе-небудзь у нашым гаркавата-разамрэлым алешніку, немцаў, працавітых і рупных, пэўна ж, варта цаніць і паважаць і тое-сёе па-гаспадарску ды па-чалавечы ў іх пераймаць. Вядома ж, лёгка сказаць, уберагчы, напрыклад, у цэнтры Мінска чатырохсотгадовы дуб, калі на нашых дачах гэтакі велікан і прыгажун два ці тры гады назад быў звалены, пэўна ж, за подкуп і са ўсімі даведкамі на тое, што ён дуплявы і небяспечны, работнікамі лясгаса.

З далечыні, з суседскага боку інакш глядзіш на ўсё сваё, але адносна вышэй як у нашага вешчуна Кастуся Каліноўскага.

А за адчыненым акном так шчыра і даверліва шапоча і хвалюецца, пераліваючыся то ружаватым, то сіне-ліловым колерам магутны, пэўна, чатырохсотгадовы бук, а за ім — гэткі ж велічны светла-зялёны дуб з даверліва прытуленаю да яго прыгожаю ліпаю. Сонца, а ў ім серабрыстымі косымі пырскамі мігціць дождж ык.

Сіняя хмара сплывае за бурачковыя кроны букаў, колер якіх прымаеш за колер восені, і душа апякаецца першым смуткам.

20.20. Вярнуліся з італьянскага рэстарана, нічога цікавага і смачнага там не паспытаўшы. Знакамітая піца, што каштавала каля дзесяці марак, добра засушаная аладка з маслінамі, памазаная памідорамі, падсмыроджаная грыбамі і падпраўленая галандскім сырам, куды горшая, чым з вуліцы ў Нью-Йорку.

Учора спатыкаліся з прэзасам Літаратурнага калёквіума, доктарам Ульрыхам Янэцкім, маладым, гадоў сарака, дынамічным, паважным, але і ў меру далікатным немцам. Пасадзіўшы нас за бакавы агульны столік, ён сказаў:

— Мы падтрымліваем малыя народы і іхнія літаратуры, садзейнічаем перакладу твораў з гэтых літаратур на нямецкую мову.

Я падзякаваў, пры гэтым дадаўшы:

— Может не к лицу просвещённой Европе, что она не знает белорусской литературы, но беда, если не трагедия белорусского народа, что иные государства не подозревают о существовании его национальной культуры. Наша общая цель узнать друг друга. Взаимопонимание—это единственный путь к художественному слову и его переводу на другие языки.

Норберт Рандаў сумеўся і марудна, і, здаецца, недакладна, са сваім каментарам, тлумачыў мае гэтыя дзве ці тры фразы.

Пасля полудню аглядалі Берлін, зрабіўшы падарожжа спярша на двухпавярховым аўтобусе, а потым—на электрычцы (балазе, на 65 марак набылі праязныя білеты на ўсе віды транспарту) ажно ў цэнтр горада, што па вясёлай публіцы, патоку машын, рэкламах, выстаўленых на тратуар кветках, жаночых уборах і аранжавых апельсінах нагадваў мне Парыж, нават Елісейскія Палі ў серабрыстых гладкаствольных платанах. Не хапала толькі французскіх рослых паліцыянтаў у прадаўгавата-круглых, без тульяў, дэголеўскіх фуражках з доўгімі брылямі.

Я купіў просценькую (ці не школьную?) ручку фірмы «Герліту», здзівіўшыся, што пазалочаныя пеліканаўскія і паркераўскія цацкі каштуюць да некалькі сот марак. За дзесятак пер'евых ручак, глядзі, можна нават прыдбаць патрыманы «Фольксваген», а гарбацеўскі дабіты «Трабант» — нават за адну.

Дарэчы, фасонам, канфігурацыяй нямецкая ручка нагадвала мне самапіску, купленую за 40 франкаў дзесяць гадоў назад у асеннім ужо, здаецца, стомленым ад жыцця Парыжы. Розная пара году, розны час—розныя, пэўна, і ўражанні. У Парыжы, можа, болей пекнаты, нават узнёслай вясёласці, затое меней прастору, зеляніны, зацішку для душы. Разбіты, скалечаны вайною Берлін, а пазней разрэзаны па-жывому акрываўленай сцяною, па-рознаму і адбудоўваўся і ўставаў з руін абапал гэтай, палітай крывёю сцяны. Адбудаваны дагледжаны Берлін, калі не браць пад увагу шаблонных хрушчоўскіх мікрараёнаў ва ўсходнім прадмесці, своеасаблівы еўрапейскі горад са сваім рытмам жыцця, бойкасцю, кіпеннем натоўпу, чысцінёю, самавітасцю ў цэнтры, усходняй недагледжанасцю на турэцкіх вуліцах і зацішнымі, нейкімі на-

і шчырэй цэніш яго, гэта сваё—радзіннае ды бацькоўскае.

І ўсё ж да слёз на вачах зайздрошчу Норберту Рандаву, які жыве ў цэнтры Берліна і каля велічных дубоў, роўныя каторым у нас спаткаеш хіба толькі на Высокім Беразе, на святой радзіме Якуба Коласа.

Віла наша стаіць на пагорку, блізка прыгожага возера Ванзэе, і нават са сталоўкі, абліцаванай сіне-белай кафляй, відаць іртутна-цяжкае калыханне вады і белыя ветразі, а наўкруг—бясконцае мора паркаў, дзе пад ружаватымі, прыгорбленымі ад старасці соснамі, разложыстымі дубамі і бурачковымі, ці, праўдзівей, ліловa-серабрыстымі букамі ўзняўся готыка віл з бастыёнамі і бастыёнчыкамі, з ласкавым колерам чырвонай чарапіцы.

У цэнтр, да станцыі Заалагічны сад, ад нашай Ванзэе шэсць прыпынкаў—паўгадзіны язды. Паязды тут ходзяць даволі марудна і найбольш адкрытым торам: акрамя метро, у Берліне па горадзе ў розных напрамках прасцягнуліся лініі электрачыгункі. Як памечана на схемах, наклееных нават на дахах вагонаў, лініі S (чыгунка) і лініі U (метро).

Выплаціўшы неблагую стыпендыю і запланаваўшы нашы з Алесем Разанавым інтэрв'ю для радыё і творчы вечар, нам далі два дні на адаптацыю. Прадстаўляць нас будуць вядомы перакладчык і прапагандыст беларускай літаратуры, калі не сказаць, беларускі паўнамоцны прадстаўнік у Нямеччыне Норберт Рандаў і Элке Эрб, паэтэса і вядомая перакладчыца рускай паэзіі. Прыйдзецца нешта сказаць, але ці варта занадта ганарыста надзімацца, каб даказаць, што кляйнерэр еўрапейшэр літаратур і на самай справе — літаратура вялікая.

У Вавенарг я натрапіў на тры цікавыя і жорстка-праўдзівыя афарызмы:

«Ні мудрасць, ні свабода не сумяшчаюцца са слабасцю.

Вайна — і тая прыносіць менш шкоды, чым рабства.

Рабства прыніжае чалавека да таго, што ён пачынае паважаць свае аковы».

Горкая і страшная да адчаю праўда, калі падумаеш пра нас саміх. І мы самі сябе і збоку ўсе чамусьці хваляць нас за пакору, прыгнечанасць, страту нацыянальнага гонару, называючы гэтую рыску дабрынёю, нават інтэлігентнасцю нашай, ласкавасцю і лагоднасцю характару. І мы, па-блазенску ўсцешаныя і спакушаныя гэтай пахвалой, адракаемся ад матчынага слова, спакутаванага пад прымусам, ад роднай зняважанай і знявечанай гісторыі, ад сваёй душы, ад саміх сябе. Не, не ўсе! Вядома, не ўсе. У многіх стогнуць грудзі і баліць сэрца. Як у яго,

Бутэлечка мінеральнай вады—каля трох марак, суп з цыбуляй—ажно шэсць.

Адным словам, спалілі 54 маркі, бо сядзелі наўкруг запаленай свечкі. Рытуал просты: перад кліентамі яе запальваюць, з адыходам яго—тушаць. Сядзіш нібы пад грамнічнаю свечкаю, як нябожчык.

Цікавасць ці інтарэс быў хіба ў тым, што прайшлі вуліцаю Маабіт і бачылі чырвона-цагляную, у пяць ці шэсць паверхаў, знакамітую маабіцкую турму, збудаваную крыжам, пасярод якога ўзвышаецца зялёны купал, нібы над святым і велічным саборам. Перад турмою—галоўны трыбунал. Таксама свая зручнасць і выгода.

Турма акружана высокай агароджай з трохгранных рэек, да якіх ад вуліцы прывараны завостраныя паўметровыя канчары.

Турма спатрэбілася і аб'яднанай Нямеччыне—там сядзяць былыя міністры ГДР. Як кажуць, цягаў воўк, пацягнулі й воўка. Але ці звялі логава, каб пасвіліся «мірныя народы», як пісаў зняверанЫ Пушкін, і каб іхняй спадчынай не былі ярмо ды біч?

У вялікім, на два паверхі, кніжным магазіне поруз з бібліямі розных выданняў, коштам ад 16 да 58 марак, кніжкі пра Сталіна—ажно тры, Чэрчыля, Гітлера, Гебельса, Гарбачова і яго Раісу. Хацеў купіць руска-нямецкі размоўнік, але яго не было. Хоць падручныя, кішэнькавага фармату, слоўнікі на ўсіх еўрапейскіх мовах займалі ажно чатыры паліцы. Сярод іх, праўда, не трапіў на вочы з блізкай і чутай мною з дзяцінства—польскай.

Каля магазіна магнітафонаў напаткалі маладога інжынера-электроніка з Кіева: прыехаў у Нямеччыну паўгода назад і работы да сённяшняга дня не знайшоў. І туляецца тут, пры магазіне, і служыць, пэўна, за нейкага зазывалу. Крыўдна і горка за яго.

На вакзалах, пры станцыях, асабліва ўвечары, бачу, збіраюцца ў купы і гурты бойкія цыганы і гаманкая да развязнасці турэцкая моладзь—не прайсці, не абмінуць. Іншы раз проста на сходах з гайнёю сабак ляжаць забрынданыя і апушчаныя ні то выпівохі, ні то наркаманы. Як бачу, распусты ў горадзе нямала. Ровар без нагляду не пакінеш—калі не ўкрадуць, то зломяць. І мы бачылі веласіпеды з пагібанымі ці знявечанымі заднімі коламі.

**Серада, 5 чэрвеня 1991 года.** Віла Літаратурнага калёквіума. Ванзэе. 0.05—яшчэ ўсё мінскага часу.



**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

# Пра тое, як я ад'ютанту Пілсудскага не паверыў

## Апавяданне

Таварышы камуністыя і некамуністыя!

Сёння мы шчыра ўзяліся разбураць наш вобраз любімы — вобраз ворага. Усё так. Разбураць трэба. Для чаго ж тады ў Еўропе Жэневу над возерам будавалі.

Але разбураць з у с і м, да костак белых, — я б вам, сябрукі дарагія, не раіў. Фрагменты асноўныя любімага вобраза нашага ўсё ж трэба пакінуць і ў падвалах дзяржаўных схаваць. Няхай паляжаць. Валасамі адчуваю: спатрэбяцца.

Яны, ворагі, ізноў могуць згуртавацца, шкодніцтвам заняцца і ў прамысловасці, і, як заўсёды, — у пытанні нацыянальным. Самы раз тады выцягнуць з падвалаў дзяржаўных уцалелыя рэшткі вобраза вечнага і скласці ў адно, каб нашыя людзі даверлівыя адразу ж успомнілі, як гэта вораг выглядае, якое піва, ад усіх затуліўшыся, смокча. Тады чалавеку простаму лягчэй будзе дзейнічаць і на вуліцы, і ў сябе дома.

Памятаць трэба, ворагаў розных і па дзень сённяшні — гібель. Затаіліся толькі.

А раней?

А раней і таго болей — куды хлопцы нашыя ні стралялі, у ворага так і траплялі. Ды ці вам расказваць!? Ведаеце, колькі стрэлаў, столькі й ворагаў. Па-стаханаўску й тут даводзілася...

Ворагі ўнутраныя, са школкі вядома, неяк лягчэй у рукі даваліся. Свае ж усё-ткі. А вось тыя, што збоку, што з Еўропы чарапічнае да нас у капелюшах перліся, — тыя не надта. Мусіць, таму, што хітрэйшыя — пры навуцы большай былі ды пры блакнотах чыстых. Самі кніжкі пісалі!.. Я тут нядаўна зусім аднаго такога блакнотчыка накрыў, кніжку яго, са слоў польскіх складзеную, прачытаў. Відаць, што наўмысна ён па-польску літары выводзіў ды коскі крэсліў, — каб гэта з боку нашага пралетарскага хутка не ўшаломкалі. Дурань! Сам у лапці ўскочыў. Я не вучыўся ў Варшаве і па Кракаву ў гальштуку агурковым не хадзіў, а пісаніну яго дэфензіўную з прагляду першага развязаў. Я ж не толькі пільны, — й таленавіты, як смоўж. Да чаго, да чаго, а да слоўцаў польскіх ліпкі. І хітрасці тут аніякае. Проста ў гады свае лепшыя застуды не баяўся, і калі дзьмулі з Віслы вятры бельведэрскія, — я заўсёды высоўваў шыю з чаратоў сваіх палескіх, слухаў мову панскую да ікаўкі сіняе. Такая ў мяне была сарбона саматужная.

Блакнотчык жа гэты польскі ў гады трыццатыя пры пагонах капітанскіх пабліскваў і пры пасадзе не абы-якой соладка пасопваў. Дзіва што — ад'ютант самога Пілсудскага!

Дзе цяпер ён? — трэба на вуліцу менскую імя Майсея Саламонавіча схадзіць, у хлопцаў тамтэйшых папытацца; а тады, у днепрагэсныя трыццатыя, у Варшаве не заседжваўся, — то па Егіпту безаўрорнаму валачыўся, то на Мадэйру некалгасную плыў. Куды Пілсудскі, туды й ён — жыццё блакнотнае.

З твару блакнотчык гэты на інтэлігента круціў, а з душы — і па фотаздымку відаць — на дыскрэдытанта поўнага. Карлу Бернгардавіча Радэка хацеў дыскрэдытаваць.

Сакрэт малы, што часам апошнім у кожнага з нас з'явіўся свой правадыр любімы, — *з ліку рэабілітаваных.* Нехта ўпадабаў Рыкава, нехта Бухарына. А мая сімпатыя палітычная — Карла Бернгардавіч Радэк.

Спытаецеся: за што ж я палюбіў яго? Адкажу з даверам: палюбіў я Карлу Бернгардавіча, вядома, ж, не за акуляры круглыя, а за слоўцы ясныя, рэвальверныя. У паліцыцы тыя слоўцы густа лёталі і ў паэзію бокам вострым заскоквалі. Ясенін памёр, сказануў неяк Карла Бернгардавіч, бо яму не было для чаго жыць. Ну ці ж не мудра й коратка па ўсяму гэтаму калябарыкаднаму — «нежалеюнезавунеплачу»!

І ў побыце сваім Карла Бернгардавіч па-рэвальвернаму прынцыповы быў. Усё лішняе ад сябе гнаў, не даваўся раскошы ў абдымкі рыначныя. Ну, не падумайце толькі, што на кухні агульнай з сям'ёй харчаваўся, што з дачкою ды жонкаю, напрыклад, пакойчык самотны фанерынаю дзяліў. Не без таго, — кватэрку меў асобную, домработніца часам заходзіла. А што ж, хіба Карла Бернгардавіч радаавы пралетар самагонны? Каньячнага ўзроўню рэвалюцыянер! Ды трэба сказаць, што кватэрка ягоная — сціплая-сціплая была, адно жыць сям'і савецкай. Не кватэрка, — а кубельца такое, непадалёк ад вежаў крамлёўскіх. Вось і дачка Карлы Бернгардавіча Соф'я Карлаўна «Огоньку» паведаміла: «Жили мы скромно, хотя вроде бы все было».

Ці ж не праўда?!

І хто ведаў, што яшчэ ў трыццатыя днепрагэсныя супраць гэтай праўды святое, супраць таго, што сям'я Карлы Бернгардавіча жыла па-спартанску празрыста, выступіў ад'ютант Пілсудскага. Блакнотчык гэты, конармііяй не прыдушаны.

Ён употайкі, як сталяр падвальны, дзённічак нагаблёўваў, у якім старанна стружка за стружкаю апісваў усе дыхі і выдыхі свайго дзядка вусатага, — і ў гэтым жа паментніку дэфензіўным збэсціў на смалу чорную імя чыстае Карлы Бернгардавіча агністага, кватэрку яго птушыную сметнікам назваў і не толькі...

Карла Бернгардавіч з ад'ютантам Пілсудскага выпадкова пазнаёміўся, — у цягніку мяккім Варшава—Масква. Ад'ютант самохаць у Сібір меціў, быццам вывучаць для свае кніжкі новае тыя мясціны нашы цудоўныя, у якіх дзядэк ягоны гады маладыя на высылцы праседзеў.

А я так думаю, для пырску ў вочы ўся гэта вандроўка сібірская рабілася. Загадана было блакнотчыку з Бельведэру самога: падсесці гэта ў цягнік мяккі да Карлы Бернгардавіча, каб сёе-тое выведаць з нашых мараў перадваенных. Па-іншаму й быць не магло.

Ад'ютант (а ці ўпершыню яму!) адразу ж перакінуўся ў авечку інтэлігентную, і таму пільнаму Карлу Бернгардавічу давялося размаўляць з ім зусім па-таварыску.

Так яны ехалі ў цягніку пасцельным, слоўцамі прыязнымі стукаліся, і да ўсяго да гэтага — ад'ютант Пілсудскага частаваў Карлу Бернгардавіча сабаёнам даўкім.

А на календарах, трэба сказаць, стаяла лета года 1933-га. Стогны й праклёны народныя плылі над цягніком пасцельным, пакуль ён, цягнік пасцельны, марудна па каляі вузкай да Стоўбцаў пагранічных шкрабаваў. Енкі людскія на хаду ў купэ шыліся, а па купэ расцякалася пара вінная ад сабаёну глынутага. Ад'ютант баяўся вельмі, каб голас люду спакутаванага не дайшоў да слыху інтэрнацыянальнага Карлы Бернгардавіча, і таму балбатаў ён абы пра што і ўсё падліваў Карле Бернгардавічу сабаёну даўкага. Балбатнёй і сабаёнам ад'ютант імкнуўся заглушыць шчырыя просьбы народныя аб вызваленні.

Паміж Баранавічамі і Стоўбцамі ён змогся і яму здалося, што балбатня і сабаён не памогуць, што яшчэ імгненне і... працоўныя Беларусі Заходняе да таварыша Радэка дагукаюцца. Каб не сталася таго, ён і ўчыніў меру мокрую: пляшку з сабаёнам наўмысна са століка спіхнуў.

Пляшка *ляснулася.*

Ад'ютант хоць і нерваваўся, а ўсё дакладна разлічыў.

Карлу Бернгардавіча крыху аглушыла і якраз глухата гэтая прыпала на тую пару хвілінную, калі ён пачынаў ужо да пакуты людское прыслухоўвацца.

Ці трэба казаць, што каб не гэтая акцыя злосная, што каб не гэты сабаён цукровы, які ажно пацёк па штанах Карлы Бернгардавіча далікатнага, што каб не балбатня ад'ютанта спланаваная, — то Карла Бернгардавіч барыкадны, пачуўшы толькі першы стогн заняволены, адразу ж лупануў бы на сябе чырвоную крывуліну стопкранаўскую і кінуўся б вызваляць край наш родны, прыгнечаны?! Не, казаць не трэба...

Але вось цягнік пасцельны прамінуў Стоўбцы акупаваныя, пераехаў у Негарэлае нашае і дыхаць лягчэй зрабілася. Тут паслалі пад колы каляю шырокую, савецкую; тут свяціла сонца і гучалі песні. І гэтак было скрозь, аж да Масквы самае.

На тэрыторыі нашай ад'ютант Післудскага хвост падціснуў, сядзеў моўчкі і са століка на штаны Карле Бернгардавічу ўжо нічога не выліваў.

У Маскве ж Карла Бернгардавіч запрасіў ад'ютанта блакнотнага да сябе дамоў, у буданчык свой сямейны.

А вораг, таварышы камуністыя й некамуністыя, вы ведаеце, — заўсёды вораг!

Ад запрашэння, зразумела ж, не адмовіўся, папіў, паеў, ні ад чога не адсоўваючыся, *а пасля ў сваім дзённіку паганым лютымі* словамі польскімі зганьбаваў кватэрку дэмакратычную майго рэвалюцыянера любімага. Даю пераклад поўны тых слоўцаў пасквільных: «Карал Радэк меў кватэру вельмі прасторную (!). Шэсць вялізных (!) пакояў і аграмаднай (!) тэрасы на даху магло б хапіць на значна большую сям'ю, чым яго».

Клічнікі ў дужках мае. Ды хіба клічнікамі гэтымі абароніш Карлу Бернгардавіча сумленнага? «Шэсць пакояў» ды яшчэ «вялізных»! Няўжо зноў трэба да ўспамінаў Соф'і Карлаўны вяртацца («жили мы скромно»), каб хоць як да праўды выплысці?! Але ж *для ворага праўды не існуе.* Калі яму трэба, — палаты крамлёўскія нам прыпіша. А мы, таварышы камуністыя й некамуністыя, добранькія такія, — не знішчыўшы яго, ужо ўхапіліся пад корань зводзіць вобраз ягоны.

*Сябрукі дарагія, што ж гэта мы?!*

Выкарыстаная літаратура:


1. Mieczysław Lepecki Pamiętnik adiutanta Marszałka Piłsudskiego Państwowe wydaw nictwo naukowe Warsawa 1987 str 175.

2. «Огонёк», 1988, № 52, с. 28.


## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### Варта пераймання

Адна з вуліц горада Слуцка, якая мела назву «палымянага рэвалюцыянера» Валадарскага, рашэннем гарвыканкома перайменавана ў вуліцу Максіма Багдановіча. Прыклад, думаецца, варты пераймання. Адных толькі вуліц Валадарскага колькі ў гарадах і мястэчках Беларусі! А калі ўлічыць, што ёсць яшчэ вуліцы Свярдлова, Урыцкага, Бабушкіна, не кажучы ўжо пра Леніна, дык, балазе, ушануем памяць усіх беларускіх пісьменнікаў, хто гэтага варты.

А. КАЗЛОЎСКІ.

### Паступілі на захаванне

У Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва Беларусі паступілі на захаванне рукапісы Сакрата Яновіча — тэксты аповесцяў, апавяданняў, мініяцюр, вершаў. Як вядома, піша ён і па-польску, і па-беларуску. Даследчыкі літаратуры, думаецца, атрымаюць карысць ад знаёмства з асабістым фондам пісьменніка.

А. ПІСЬМЯНКОВА.

### У калысцы «цёці Уладзі» — Вішнева

Вішнева, што на Валожыншчыне, мясціна знакамітая. Так ужо сталася, што сыходзілася тут шмат творчых дарог. У Вішневе, 25 снежня 1891 года, нарадзілася і Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, незабыўная «цёця Уладзя», жонка і паплечніца Янкі Купалы, адзін з найбольш паслядоўных рупліўцаў на нацыянальнай ніве.

Адзначыць 100-гадовыя ўгодкі з дня яе нараджэння сабраліся ў Вішневе тыя, каму дарагая памяць пра Уладзіславу Францаўну, хто не забывае яе добрыя справы. У час урачыстасцяў выступілі мясцовы краязнаўца Г. Равінскі, супрацоўнікі літаратурных музеяў — Янкі Купалы М. Чабатарэвіч, Якуба Коласа — І. Курбека, член Валожынскай раённай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны М. Трапашка... Пляменніца Я. Купалы Я. Раманоўская падарыла мясцовай школе бюст народнага песняра, што стаяў *колісь* на кватэры У. Луцэвіч.

Літаратурная частка ўрачыстасцяў складалася з выступленняў П. Прыходзькі і В. Шніпа.

В. ЗАКРЭЎСКІ.




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12